ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№9 (138)
верасень 2022 год
CATHOLICNEWS.BY

# Побач з Папам



## Уражанні аднаго езуіта ад сустрэчы са Святым Айцом

Стар. 3



## Новыя касцёлы ў Беларусі

Стар. 10



## Гутарка з маладым францішканінам

Стар. 8

## Крыж: параза ці перамога?



Стар. 13

## Праз 80 гадоў абраз Маці Божай Друйскай вярнуўся ў святыню



Стар. 5

# Соболезнования Папы: Елизавета II – пример верности долгу!

**Папа Франциск выразил глубокие соболезнования в связи со смертью королевы Великобритании Елизаветы II, покинувшей этот мир 8 сентября в замке Балморал на 97-м году жизни.**

В послании на имя нового монарха Карла III Святейший Отец пишет:

"Глубоко опечаленный известием о смерти Её Величества королевы Елизаветы II, я выражаю сердечные соболезнования Вашему Величеству, членам королевской семьи, народу Соединённого Королевства и Содружества. Искренне присоединяясь ко всем скорбящим, я молюсь о вечном упокоении новопреставленной королевы и отдаю дань уважения её жизни, посвящённой неустанному служению на благо народа и Содружества, её образцовой приверженности долгу, её непоколебимому свидетельству веры в Иисуса Христа и твёрдой надежде на Его обетования. Вверяя её благородную душу милосердной благости нашего Небесного Отца, – пишет Епископ Рима в телеграмме соболезнований, – я заверяю Ваше Величество в своих молитвах, дабы Всемогущий Бог поддерживал Вас Своей неустанной благодатью, когда Вы приступите к высоким обязанностям короля. На Вас и на всех, кто бережно хранит память о Вашей покойной матери, я призываю изобилие Божьих благословений в качестве залога утешения и силы в Господе", – завершает послание Папа Франциск.

Со своей стороны, архиепископ Вестминстерский, президент Конференции католических епископов Англии и Уэльса кардинал Винсент Джерард Николс подчеркнул, что королева Елизавета II "всегда будет сияющим светом в нашей истории. Да покоится она с миром". В специальном заявлении кардинал пишет о своей искренней скорби и восхищении тем, как Елизавета II служила своему народу. Каждый день жизни королевы был отмечен христианской верой, подчёркивает иерарх, цитируя её Рождественское послание на Второе тысячелетие: "Для меня учение Христа и моя личная ответственность перед Богом образуют рамки, в которых я стараюсь прожить. Как и многие из вас, в трудные времена я черпала утешение в словах и примере Христа".


Папа Франциск на встрече с королевой Елизаветой II и принцем Филиппом в Ватикане (10 апреля 2021 г.)

Свои соболезнования выразил британский кардинал Артур Рош, префект Конгрегации богослужений и дисциплины Таинств:

"Те из нас, кто работает при Святейшем Престоле и происходят из Великобритании, Северной Ирландии и стран Содружества, с огромной печалью восприняли новость о кончине Её Величества королевы Елизаветы II. С момента вступления на престол в 1952 году, после смерти своего отца короля Георга VI, она не только без остатка посвятила себя служению своему народу, но и вверила его Божьей защите. Её христианская вера многократно выражалась в ежегодных рождественских посланиях и по другим поводам: это были моменты необыкновенного свидетельства Евангелия, ценностей общего блага, семейной жизни, мира и согласия между народами. Её доброта и сочувствие к людям, её государственная мудрость и любовь к своему народу во многих странах, культурах и религиях Содружества говорят о нерушимой и уникальной преданности служению другим. Все очень любили королеву. Следуя обещанию, которое она дала в возрасте 21 года в своей знаменитой радиопередаче в 1947 году, она оставалась непоколебимой до самой смерти, выполняя собственное заверение: 'Я заявляю перед всеми вами, что вся моя жизнь – долгая или короткая – будет посвящена служению вам!"

***Виктор Владимиров,***
*Vatican News*

# Падчас свайго візіту ў Казахстан Папа Францішак асвяціў абраз Маці Божай Казахскіх стэпаў



**Папа Рымскі Францішак 15 верасня падчас свайго візіту ў Казахстан асвяціў абраз, на якім Марыя і Дзіцятка Езус прадстаўленыя карэннымі казахамі, даверыўшы Касцёл у Казахстане і ўсёй Цэнтральнай Азіі Маці Божай.**

Папа Францішак завяршыў трохдзённую паездку на Сёмы Кангрэс лідараў сусветных і традыцыйных рэлігій, які праводзіцца прыкладна кожныя тры гады.

На сустрэчы з біскупамі, святарамі, дыяканамі, кансэкраванымі асобамі, семінарыстамі і душпастырскімі супрацоўнікамі 15 верасня ў катэдры Маці Божай Нястомнай Дапамогі Папа распавёў пра багатую хрысціянскую гісторыю Цэнтральнай Азіі і заахвоціў католікаў прыняць гэтую спадчыну, даючы "вялікадушнае сведчанне" аб радасці заўсёды новага Евангелля Езуса Хрыста.

Трыпціх – або трохчасткавы твор – з выявай Божай Маці з немаўляткам Езусам з казахскімі абліччамі вядомы як "Маці Вялікага стэпу". Яго стварыў мастак Дасбол Касымаў, каторы паведаміў, што яго натхненнем для выявы стала любоў і павага да маці ў казахскай культуры.

Іканапісец паведаміў, што німб Дзіцятка Езуса мае форму шанырака – герба Казахстана і агульнага культурнага сімвала, заснаванага на форме крыжа. Этнічныя казахі – гэта пераважна мусульманесуніты, прадстаўнікі найбольш распаўсюджанай рэлігіі ў краіне.

Д. Касымаў патлумачыў, што на абразе Марыя глядзіць убок, таму што "казахі лічаць: калі жанчына глядзіць прама ў твар суразмоўцу, то гэта не зусім правільна і не ветліва". Позірк Панны Марыі таксама можна вытлумачыць тым, што Яна думае пра будучыню, што "Яна адчувае, што адбудзецца з Яе Сынам", сказаў мастак. У Дзіцяткі Хрыста, які глядзіць у іншы бок ад Сваёй Маці, "мешаніна пачуццяў", адзначыў мастак. "Яму як бы з аднаго боку не хочацца адрывацца ад Маці, а з іншага… дзесьці ў глыбіні, у Яго юнай падсвядомасці таксама ёсць разуменне таго, што ў Яго ёсць свая дарога, як і ў кожнага з нас свой шлях".

Казахстан з'яўляецца ў асноўным мусульманскай краінай, дзе пражывае этнічна разнастайная меншасць католікаў – агулам каля 250 000 чалавек. Большасць казахстанскіх католікаў лацінскага абраду, але ёсць таксама меншасць усходняга абраду, каторая налічвае каля 3000 чалавек. Святы Ян Павел II наведаў гэтую краіну ў 2001 г. і быў сустрэты з энтузіязмам.

Арцыбіскуп адзінай каталіцкай архідыяцэзіі ў Казахстане, названай у гонар Марыі, заявіў CNA, што візіт Папы Францішка мае выключнае значэнне для невялікай, але разнастайнай каталіцкай меншасці краіны.

"Гэты абраз у будучыні будзе ўсталяваны ў санктуарыі ў Азёрным, дзе Маці Божая ўшаноўваецца як Каралева Міру, Апякунка Сярэдняй Азіі", – паведаміў CNA арцыбіскуп Томаш Пета, які замовіў абраз. Іерарх узначальвае архідыяцэзію Найсвяцейшай Марыі ў Астане, сталіцы краіны.

Арцыбіскуп Пета сказаў, што новая капліца будзе пабудаваная ў форме юрты, традыцыйнага круглага намёта, які выкарыстоўваецца качавымі групамі ў Цэнтральнай Азіі. У святыні таксама адкрываецца новы цэнтр прыёму пілігрымаў, прысвечаны св. Яну Паўлу II.

***Jonah McKeown,***
*catholicnewsagency.com*

*Пераклад:* ***кс. Віктар Місевіч***




# Біскуп Буткевіч: "Шкада, што Папу сустракаем не ў Беларусі"

**Старшыня епіскапату Беларусі пракаментаваў свой удзел у сустрэчы з Папам Францішкам у Казахстане.**

"Мы жывём з надзеяй і молімся, каб калісьці ўзнікла магчымасць прывітаць Пантыфіка ў Беларусі, але для нас вялікая радасць, калі ён наведвае краіны былога Савецкага Саюза, бо гэта тэрыторыя, дзе, на жаль, Касцёл больш за ўсё пакутаваў ад атэістычнай сістэмы", – адзначыў Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Біскуп Буткевіч лічыць словы Святога Айца, сказаныя ў Казахстане, па-сапраўднаму надзённымі, актуальнымі ў сённяшнім кантэксце. "Тое, што сказаў Папа, мае не толькі Божы і евангельскі сэнс, умацоўваючы нас у веры, але і адпавядае сённяшняй сітуацыі. Ён звяртаў увагу на настолькі патрэбныя сёння ў свеце мір і згоду, на прыклады, дзякуючы якім мы можам дасягнуць іх. Вельмі хочацца верыць, што гэтыя словы прынясуць свой жаданы плён", – заўважыў іерарх.

Прадстаўнікі каталіцкага епіскапату – старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч і старшыня Сінадальнай камісіі пры ККББ біскуп Аляксандр Яшэўскі – 14 верасня ў свята Узвышэння Святога Крыжа ў Нур-Султане ўзялі ўдзел у Імшы разам з Папам Францішкам.

***кс. Аляксандр Амяльчэня***
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*


Нур-Султан. Біскупы з Беларусі падчас сустрэчы Папы Францішка з духавенствам

# Побач з Папам: уражанні аднаго езуіта ад сустрэчы са Святым Айцом

**Ужо стала традыцыяй, што падчас сваіх падарожжаў за мяжу Папа Францішак вылучае час, каб сустрэцца са сваімі сабратамі па ордэне – мясцовымі езуітамі, каб паразмаўляць з імі на розныя тэмы, даведацца пра іх працу. Так раней адбылося ў Польшчы (падчас Сусветных дзён моладзі ў 2018 г.), у Славакіі, на Мальце, у Канадзе і зусім нядаўна ў сталіцы Казахстана, дзе Святы Айцец удзельнічаў у з'ездзе лідараў сусветных і традыцыйных рэлігій.**

■ а. Віктар Жук SJ, *jezuity.by*; Янез Север SJ, *фота*

Езуіты цяпер не служаць на тэрыторыі Казахстана (хоць раней там прысутнічалі ў некалькіх месцах і нават пабудавалі касцёл у будучай сталіцы – Астане, які стаў катэдральным. У ім таксама маліўся Папа, сустракаючыся з духавенствам). Па гэтай прычыне на сустрэчу з Пантыфікам запрасілі чальцоў Таварыства Езуса з рэгіёна, да якога адміністрацыйна належыць гэтая сярэднеазіяцкая краіна: акрамя Кыргызстана і Расіі, гэта і Беларусь, таму віцебскія езуіты – а. Клеменс Верт і я – таксама атрымалі запрашэнне прыбыць на сустрэчу.

Шчыра кажучы, спачатку я сумняваўся, ці варта выбірацца ў такі далёкі шлях: ці сапраўды можам назваць сябе "мясцовымі езуітамі", праехаўшы 3000 км? Але езуіцкая паслухмянасць узяла верх, і мы купілі білеты на самалёт. Забягаючы наперад, скажу, што яно было таго варта. Акрамя нас, на запрашэнне адгукнуліся 17 сабратоў, якія служаць у Маскве, Санкт-Пецярбургу, розных месцах Сібіры і Кыргызстана. Разам мы прадстаўлялі 11(!) розных народнасцей.

Сустрэча адбылася ў нунцыятуры раніцай 15 верасня, у апошні, трэці дзень візіту Папы. Канешне, было хваляванне перад такой падзеяй: такія нагоды здараюцца, бадай што, раз у жыцці. Як сябе паводзіць, што казаць?.. Але ў Папы Францішка выдатна атрымліваецца разрадзіць абстаноўку. Ён прыбыў амаль на дваццаць хвілін раней і прывітаўся з кожным паасобку. Мне пашчасціла быць адным з перакладчыкаў, таму я заняў месца побач са Святым Айцом і ўвесь час сустрэчы знаходзіўся так блізка ад яго, што проста не верылася.

Такі досвед, безумоўна, пакідае моцнае ўражанне: харызма Папы Францішка адчувальная амаль што фізічна! Справа не толькі ў тым, што ты знаходзішся побач з асобай, якую слухаюць мільярды людзей, але ў адчуванні, што гэты чалавек – сапраўдны маральны і духоўны аўтарытэт, прычым дзякуючы не сваёй фармальнай пасадзе, а таму, што паслядоўна ўцелаўляе ў жыццё тое, ува што верыць і што яму падказвае Дух Святы. Адначасова ёсць усведамленне, што Папа – чалавек, які мае свае недасканаласці і абмежаванні, пачынаючы ад фізічнага здароўя: уражвала, як праз праблемы з каленам яму даводзіцца дазваляць, каб яго перасаджвалі з інваліднага вазка на крэсла і назад, як яму цяжка стаяць. Разам з усім гэтым Папа паводзіць сябе вельмі проста і непасрэдна, жартуе і шчыра смяецца: ён сапраўды ўмее ламаць сцены.



Пра што Папа размаўляў з езуітамі – гэта, канешне, таямніца, якую нельга парушыць пад страхам смерці. Жартую. Насамрэч, ніякіх асаблівых таямніц Папа нам не адкрыў, акрамя, бадай што, усведамлення таямніцы Валадарства Божага, якое вельмі блізкае, але схаванае ад звычайнага ўспрымання. Перш за ўсё, Святы Айцец нагадаў нам пра тое, каб быць блізкімі да Божага народа, каб быць побач з людзьмі, каб умець чуць іхняе цярпенне і пакуты асабліва ў наш няпросты час.

Не абышлося без абмеркавання трагічных падзей апошняга часу – вайны і яе наступстваў. Калі адзін з прысутных запытаўся ў Папы, якая малітва найчасцей ёсць у яговым сэрцы, Пантыфік адказаў, што гэта вельмі простыя заклік да Бога: "Пане, паглядзі на свой народ!" Пастыр паўсюднага Касцёла казаў нам пра важнасць малітвы заступніцтва з адвагай і настойлівасцю, з даверам, але адначасова "надакучаючы" Богу, як гэта рабіў Абрагам, просячы за жыхароў Садома. Папа сцвердзіў, што без практыкі размовы з Богам, без прабывання перад Богам не можа быць аўтэнтычнага паклікання. Святы Айцец нагадаў сваім сабратам таксама, што нельга быць у першую чаргу спецыялістам у нечым, а потым ужо езуітам: трэба перадусім жыць сваім пакліканнем, сапраўды адчуваць, што належыш да манаскай сям'і, а тады ўжо глядзець, чым займацца і ў якой сферы дасканаліцца. У кантэксце міжрэлігійнага мерапрыемства, падчас якога ў чарговы раз гучаў моцны заклік да міру, Папа таксама вучыў нас у духу экуменізму будаваць масты, шукаць таго, што яднае, а не падзяляе. Мне здаецца, што ўсе гэтыя парады не толькі езуітам, але любому верніку варта прымяняць у сваім жыцці, дастасоўваючы да канкрэтных абставінаў.

Спадзяюся, што гэтыя мае ўражанні дапамаглі хоць крыху перадаць атмасферу сустрэчы з Папам-езуітам і заахвоціць прыслухоўвацца да яговых словаў. Няхай Пан захавае яго і вядзе сваім Духам для дабра ўсяго паўсюднага Касцёла!

# ШТО МОЖНА АДЧЫНІЦЬ? А ШТО АДКРЫЦЬ?

**Вынесенае ў загаловак пытанне насамрэч з'яўляецца актуальным. Мы па сутнасці пастаянна сутыкаемся з ужываннем дзеясловаў адкрываць і адчыняць, паколькі яны валодаюць дастаткова шырокімі спалучальнымі магчымасцямі і абслугоўваюць у камунікацыйным плане розныя сферы дзейнасці чалавека.**

■ Юрась Бабіч , *кандыдат філалагічных навук*

Гэта і не дзіўна, бо мы штодня па некалькі дзясяткаў разоў адчыняем (ці ўсё ж адкрываем?) дзверы, кнігу, газету або пэўную інтэрнэт-старонку. Таму і паўстае пытанне: ці можна лічыць згаданыя дзеясловы сінонімамі, ці ўсё ж ёсць розніца паміж імі з пункту гледжання ўнармаванай мовы? Такую праблему прапануе асвятліць на моўнай старонцы "Каталіцкага весніка" наш чытач з Глыбоччыны спадар Андрэй. Ён, у прыватнасці, піша: "Пару гадоў назад пачаў я цікавіцца правільнай беларускай мовай. Гэта значыць, як лепш выкарыстоўваць нейкія словы, куды ставіць націск, які канчатак патрэбны ў той ці іншай сітуацыі. І вось нядаўна зайшла спрэчка з маёй сяброўкай. Яна таксама імкнецца гаварыць як найчасцей па-беларуску. Але заўжды кажа, напрыклад, **адчыні (зачыні) кнігу** ці нават (жартам) **зачыні рот**)). Дык вось у мяне і паўстала пытанне: ці на самай справе так павінна быць па-беларуску?"

Мы дзякуем спадару Андрэю за ўзнятую праблему, за падказку чарговай тэмы, якую паспрабуем сёння закрануць у гэтым матэрыяле.

Сапраўды, дзеясловы **адчыніць** і **адкрыць** часта блытаюцца пры ўжыванні і ў вуснай, і нават у пісьмовай камунікацыі. Пры падабенстве лексічнага значэння яны ўсё ж спалучаюцца з рознымі групамі назоўнікаў. А ў больш шырокім сэнсе – ужываюцца ўвогуле ў розных камунікацыйных сітуацыях.

Дзеяслоў **адчыніць** мае значэнне *"зрабіць даступнай унутраную ці знешнюю прастору чаго-небудзь праз адпаведныя дзвенні"* (**адчыніць акно, фортку, дзверы, веснiцы, браму** і г.д.) Антонімам тут будзе выступаць слова **зачыніць**.

Дзеяслоў **адкрыць** мае некалькі значэнняў: 1. *Разгарнуць што-небудзь* (**адкрыць кнігу, блакнот, ноты, інтэрнэт-старонку** і г.д.); 2. *Зняць што-небудзь зверху з адзення, агаліць* (**адкрыць галаву сонцу, адкрыць твар, адкрыць плечы** і г.д.); 3. *Увесці што-небудзь у дзеянне, пусціць* (**адкрыць газ, адкрыць ваду**); 4. *Паведаміць што-небудзь не тоячыся, наўпрост* (**адкрыць праўду, адкрыць свае планы**); 5. *Даць шырокія магчымасці каму-небудзь для развіцця* (**адкрыць дарогу**); 6. *Пачаць што-небудзь, пакласці пачатак новай дзейнасці ці дзеянню* (**адкрыць сход, пасяджэнне, канферэнцыю, тэатральны сезон; адкрыць рахунак у банку; адкрыць агонь**); 7. *Устанавіць наяўнасць чаго-небудзь, існаванне чагосьці* (**адкрыць паклады каменнага вугалю, адкрыць Амерыку** – зразумела, у пераносным сэнсе). Пры гэтым у шэрагу выпадкаў замест слова **адкрыць** могуць ужывацца іншыя дзеясловы. Напрыклад, мы кажам **расплюшчыць вочы** (а не адкрыць вочы) або **разгарнуць кнігу.** Яшчэ можна **адкаркаваць бутэльку** шампанскага, каньяку або якога іншага напою, калі гэтая бутэлька закаркаваная, гэта значыць, мае корак. Дарэчы, з пункту гледжання культуры маўлення менавіта названыя канструкцыі больш пажаданыя. То бок лепш сказаць **адкаркаваць бутэльку** чым **адкрыць бутэльку**.



Як бачым, спалучальныя магчымасці дзеясловаў **адчыніць** і **адкрыць** розныя. Слова **адкрыць** валодае значна большым сінтагматычным патэнцыялам, здольнае спалучацца з дастаткова вялікай колькасцю назоўнікаў. А дзеяслоў **адчыніць**, наадварот, утварае словазлучэнні толькі з назоўнікамі, якія абазначаюць нешта, што робіць недаступнай *"унутраную ці знешнюю прастору чаго-небудзь"* і таму ўтварае словазлучэнні з абмежаванай колькасцю назоўнікаў. А яшчэ можна кіравацца прынцыпам: мы адчыняем тое, што мае завесы. Усё астатняе, хіба што, адкрываем.

І, вяртаючыся да пытання нашага чытача з Глыбоччыны спадара Андрэя, скажам, што правільна па-беларуску будзе **адкрый** (**закрый**) **кнігу** або **разгарні** (**загарні**) **кнігу** і (жартам, незласліва) **закрый рот**)).

Спадзяёмся, што прапанаваны матэрыял паспрыяе развіццю правільнага, літаратурнага беларускага маўлення, а таксама паслужыць пэўным штуршком да далейшага ўдумлівага карыстання нашай мілагучнай мовай.

# З успамінаў ксяндза Юзафа Дзям'яна

*Працяг публікацыі з "Каталіцкага Весніка" № 8 (137)*

**Працягваем друкаваць тую частку ўспамінаў кс. Ю. Дзям'яна, якая прысвечана яго працы на тэрыторыі сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі (у часы, пра якія вядзецца гаворка, – гэта Віленская дыяцэзія).**

■ **Раіса Зянюк**, *кандыдат гістарычных навук*



**Кс. Ю. Дзям'ян,** *фотаздымак са збораў Архідыяцэзіяльнага архіва ў Беластоку*

Нагадваем таксама, што ўспаміны як гістарычная крыніца важныя для нас тым, што дазваляюць паглядзець на падзеі вачыма іншага чалавека, удзельніка альбо відавочцы. Варта падыходзіць да такіх крыніц крытычна – трэба разумець, што апісаныя з'явы адлюстраваныя праз прызму светаўспрымання іншага чалавека, яго агульных ведаў, паходжання, нацыянальнай прыналежнасці і нацыянальнай самасвядомасці, палітычных поглядаў і г.д. У сувязі з гэтым немагчыма казаць пра поўную аб'ектыўнасць у паказе тых з'яў, якія апісвае аўтар.

### Штатны ксёндз-прэфект у Слабодцы (Браслаўскі павет)

Пасля некалькіх месяцаў побыту ў Забалацці я павінен быў паехаць у Слабодку на пасаду прэфекта, то бок штатнага настаўніка рэлігіі. Тут знаходзілася шмат ваенных з Корпуса аховы памежжа, і мясцовасць была вельмі прыгожая, як малая Швейцарыя. Летам тут было шмат турыстаў, скаўтаў, якія прыязджалі сюды ў летнікі, мелі свае летнікі і вечарамі распальвалі вогнішча. Пры распаленым вогнішчы скаўты спявалі песні, рабілі прадстаўленні, а часта і ваенны аркестр іграў песні, і ладзіліся танцы. Пры вогнішчы збіраліся ваенныя, скаўты і тыя, хто прыязджаў сюды на адпачынак. Рэлігійная песня "Wszystkie nasze dzienne sprawy", спяваная ўсімі сабранымі ля вогнішча, станавілася знакам да заканчэння і адыходу адпачываць. Пробашчам у Слабодцы тады быў літвін кс. Міхайла, які досыць непрыхільна, а часам нават варожа ставіўся да палякаў. Тут я перажыў досыць цяжкую хваробу ўнутранага заражэння крыві праз тое, што з'еў маленькі кавалак мяса. А была гэта дохлая курыца, мяса якой я з'еў толькі трошкі. Ксёндз-пробашч тады быў у адпачынку, калі гэта здарылася. Падчас маёй хваробы я ляжаў непрытомны з 40-градуснай тэмпературай. Калі вярнуўся ксёндз-пробашч, выкліканы з адпачынку праз тэлеграф, то забараніў слугам да мяне заходзіць і нават есці даваць, але адна з іх, літвінка, не паслухалася і клапацілася пра мяне, прыносячы мне ежу, за што і была звольненая з працы. Яна ж паведаміла пра мяне ваеннаму лекару, і той пачаў пра мяне клапаціцца, нягледзячы на забарону, адведваючы па некалькі разоў на дзень. [...] Лекар мне тлумачыў, што я з гэтай хваробы ўратаваны абсалютна цудоўным чынам. І сам факт таго, што я вылечыўся, для яго найлепшая ўзнагарода, якой ён можа ганарыцца.

Вайскоўцы даведаліся прычыны маёй хваробы ад звольненай служачай, і хацелі пасвойму разабрацца з пробашчам, але я іх устрымаў ад гэтага. Пасля майго поўнага выздараўлення я быў пераведзены ў парафію Барадзенічы таксама на пасаду штатнага прэфекта.

У Барадзенічах быў толькі маленькі гістарычны касцёл, а да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі было амаль дваццаць кіламетраў. Тут у школы я дабіраўся і на роварах, і на возе, а найчасцей пешшу – праз жахлівы стан дарогі, вельмі гліністай, хадзіць па якой было надзвычай цяжка, а адзін конь не мог нават пусты воз цягнуць па размяклай гліне. У Барадзенічах я сустрэў ксяндза незвычайных якасцей і дабрыні, як каштоўную пярліну, згубленую ў гэтых балотах. Ад яго многім рэчам навучыўся, бо гэта быў чалавек пабожны і які практычна глядзеў на святарскае жыццё (кс. Ю. Інгелевіч – заўв. Р.З.). Гэтага пробашча я вельмі палюбіў і развітваўся з ім з болем сэрца.



**Касцёл Сэрца Езуса (Слабодка)**

Працуючы тут, я ездзіў у мястэчка Ёды, за 10 кіламетраў, дзе два дні на тыдзень навучаў рэлігіі ў школе. Таму зімой часта начаваў у сям'і Лапацінскіх, і ў іх хатняй капліцы ў нядзелю адпраўляў св. Імшу для мясцовых католікаў. Сям'я гэтая, якая мела графскае паходжанне, бо іх найбліжэйшыя родзічы насілі графскі тытул, была вельмі шляхетнай, пабожнай і вельмі шмат дапамагала. У сям'і Лапацінскіх жыла старэйшая пані, таксама з высокага роду, якая мне заўсёды дасканала і беспамылкова на цэлы тыдзень прадказвала надвор'е.

Паціху прызвычаіўся я да новага жыцця ў Барадзенічах. Доўгія, сардэчныя размовы з ксяндзом-пробашчам у мае вольныя хвіліны ўзмацнялі мяне духоўна ў такім закінутым месцы, бо да чыгуначнай станцыі было амаль дваццаць кіламетраў. Сюды ніводзін аўтобус не даязджаў, а ісці пешшу па гліністай размоклай дарозе было немагчыма. Таму выезд да хворага за нейкія 10-20 кіламетраў станавіўся сапраўднай пакутай, бо воз ехаў з хуткасцю чатырох кіламетраў на гадзіну. Звычайна тады давалі на замену або на частку дарогі коней, якія таксама мучыліся вельмі. Як штатны прэфект, працуючы ў школах, аддаленых ад касцёла і плябаніі на некалькі кіламетраў, я не мог без сур'ёзнай для школьнага інспектарату прычыны прапусціць аніводнага ўрока, а дрэнная дарога і магчымасць спазнення на ўрок такой прычынай не былі. Часцей за ўсё, пакуль дарогі не размакалі, я ездзіў у школу на роварах, а калі рабілася балота, стараўся хадзіць і ездзіць па сцежках ля дарогі. Раз, едучы па сцежцы на роварах, зваліўся ў роў, пасля ў рацэ вымыў сваю сутану, высцінуў яе, і так паехаў у школу, дзе ўжо высушыўся, каб не прапускаць урок рэлігіі. Найлепей было ездзіць у школу зімой, бо я вельмі люблю мароз і снег.

### Сустрэча са стараверамі

Першы раз у сваім жыцці тут я таксама сутыкнуўся з сектай стараверaў. Секта гэтая паўстала з праваслаўя. Стараверы мелі свае дзіўныя звычаі. Так, у святочныя дні яны лавілі на рынку вызначаных дзяўчат, а злоўленая і прывезеная ў дом да хлопца дзяўчына станавілася яго жонкай. На такі рынак, альбо кірмаш, у вызначаныя дні збіралася моладзь з сем'яў стараверaў нават з вельмі далёкіх мясцовасцей, і тут лавілі і вывозілі дзяўчат, каторыя гучна крычалі. Родныя маглі дагнаць і адабраць дзяўчыну, але такое рэдка бывала. Стараверы мелі коней: малых каржакаватых сібірскіх арабаў, якія ў бегу маглі абагнаць цягнік і здольныя былі бегчы без адпачынку з дваццаць кіламетраў. Стараверы не мелі духавенства, а кіраваў імі старэйшы па ўзросце чалавек. Забіць чалавека стараверы лічылі меншым грахом, чым паленне папіросаў, а курыльшчыкаў яны абміналі як пракажоных. Да праваслаўных яны ставіліся вельмі варожа, а поп павінен быў амінаць стараверскую вёску, бо ноччу там мог быць нават забіты. Затое да ксяндзоў іх адносіны былі сяброўскія і зычлівыя.

Аднойчы паехаў я ў каталіцкую вёску, каб там асвяціць абраз Маці Божай, перад якім у траўні будуць людзі маліцца, заахвоціць людзей да маёвага набажэнства і самому ў той вёсцы і ў іншых гэтае набажэнства распачаць. Да той вёскі я не мог даехаць, бо вада сарвала мост, кладкі ніводнай не было, а вада была ледзяная. Я ўжо меў намер вярнуцца дадому праз гэтую перашкоду, і толькі папрасіў папіць вады ў старога старавера, бо большасць там была стараверaў.

Запытаўся ў мяне стары, ці не куру я. Не куру, адказаў я. Ён адразу ж паклікаў чатырох хлопцаў, якія скінулі штаны і, пасадзіўшы мяне на стары фатэль, праз рэчку перанеслі. Пайшоў я пешшу да сваёй каталіцкай вёскі і, асвяціўшы абраз, пасля набажэнства вяртаўся, разважаючы, што давядзецца мне сюды вярнуцца і пераначаваць. Якім жа было маё здзіўленне, калі аказалася, што гэтыя хлопцы-стараверы мяне ўжо чакалі і зноў перанеслі мяне праз рэчку на фатэлі па ледзяной вадзе, без аніякай узнагароды. Гэта быў гераічны ўчынак, які мала хто з католікаў мог бы здзейсніць.

У падзяку стараверам за такую гераічную паслугу, маючы фотаапарат, я сфатаграфаваў сабраных з усёй вёскі стараверaў. А калі ім гэтыя здымкі раздаў, то радасць сярод іх была такая вялікая, што яны нават выказалі жаданне перайсці на каталіцкую веру. Пры ўмове, каб я заўсёды, аж да смерці заставаўся ў гэтай парафіі. Вядома, гарантаваць ім выкананне гэтага дзіўнага жадання я не мог.

### Канфлікт з дзяржаўнымі ўладамі

Як прэфект я вучыў рэлігіі ў школе ў Ёдах, аддаленых ад Барадзеніч на 10 кіламетраў, дзе ў доме паноў Лапацінскіх была вялікая імшальная капліца, і ў кожную нядзелю тут я адпраўляў св. Імшу. Кіраўнік школы ў Ёдах, добры католік і адукаваны [чалавек], быў звольнены, бо меў іншыя перакананні, чым санацыйны школьны інспектар. Хутка прыслалі сюды новага кіраўніка, які адразу ж пасля свайго прыезду папрыбіраў са сцен школы крыжы і абразы. Ва ўсім мястэчку праз гэта было вялікае абурэнне людзей, і я таксама не мог застацца абыякавым. Калі мая прыватная размова не прынесла вынікаў, а школьны інспектар на гэта адрэагаваў маўчаннем, тады я з амбона ў капліцы папракаў за такія ўчынкі. Адразу ж пачалася барацьба з кіраўніком школы, якога падтрымлівалі школьныя ўлады. Гэтая справа атрымала розгалас у прэсе, і скаргі накіроўваліся нават у міністэрства. Санацыйныя ўлады падтрымлівалі гэтага кіраўніка, а паліцыя пачала запалохваць сялян, якія мяне падтрымлівалі. І тады каталіцкае насельніцтва, раней абуранае, сціхла. Найбольш мяне падтрымлівалі стараверы, каторыя заявілі школьным уладам, што разбураць школу, калі кіраўнік не павесіць у ёй крыжоў, а турмы яны не баяцца, як і іншай кары. З-за гэтай сітуацыі ўлады перавялі кіраўніка школы ў іншае месца, а мяне звольнілі з пасады штатнага прэфекта і накіравалі справу ў пракуратуру за паклёп і абразу школьнай улады ў прэсе.

Першапачаткова мяне ў гэтай маёй слушнай барацьбе за крыжы падтрымлівала курыя, і сам арцыбіскуп заахвочваў да змагання. Але калі мяне звольнілі з пасады і справа апынулася ў пракурора, то і арцыбіскуп адмовіўся, і курыя, і ўсе мяне пакінулі – як фанатыка, што проста памыліўся. Арцыбіскуп некаторы час не даваў мне аніякай пасады, а ўрэшце прызначыў мяне пробашчам у бязлюднай мясцовасці Скрундзі, якая знаходзілася на ўскрайку Занёманскай пушчы, дзе я не мог бы ніяк апраўдацца ў абвінавачваннях, якія мне выстаўлялі, не маючы сведкаў. Аднак на просьбу маю, майго пробашча ксяндза Інгелевіча і дэкана ксяндза Сакалоўскага далі мне пасаду вікарыя ў Параф'янаве. Арцыбіскуп быў перакананы, што ўлады мяне на пасадзе пробашча ніколі не зацвердзяць, што прэфектам я змагу быць толькі на пагадзіннай умове, таму найлепш быць вікарыем, паколькі я так ужо не дагадзіў дзяржаўным уладам.

Мае сябры-святары таксама кпілі з мяне як з фанатыка, дзівака і скандаліста, і гэта найбольш мне балела: атрымліваць удары ад сваіх. Я верыў, аднак, у дапамогу Бога, якая заўсёды падтрымлівае тых, хто змагаецца за Бога. Гэты мой давер Богу мяне не падвёў, і вельмі хутка так усё атрымалася. Раней я быў ідэалістам і верыў у тое, што кожны біскуп – гэта як бы святы чалавек без граху, які заўсёды трымае сваё слова, і манахаў я таксама ідэалізаваў, а, на жаль, у жыцці яны вельмі мяне падвялі. Я сардэчна развітаўся са сваім кс. Інгелевічам, чалавекам вельмі пабожным, каторы мяне шкадаваў і парадамі сваімі падтрымліваў, а сядзеў, нягледзячы на ўсе свае перавагі, у Барадзенічах, у сапраўднай дзірцы. Развітаўся і з ксяндзом-дэканам і з горыччу ў сэрцы паехаў на пасаду вікарыя ў Параф'янава.

*Працяг будзе.*

# Праз 80 гадоў абраз Маці Божай Друйскай вярнуўся ў святыню

**10 верасня ў Мёрскім дэканаце адбылася знамянальная гістарычная падзея. Дзякуючы Божаму Провіду праз дамоўленасць паміж суседнімі парафіямі абраз Маці Божай Друйскай, які 80 гадоў знаходзіўся ў парафіі Маці Божай Шкаплернай у Ідолце, быў перададзены парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі.**

Імпрэза распачалася ў парафіі Маці Божай Шкаплернай у Ідолце аб 11-ай гадзіне. Звяртаючыся да парафіян, якія прыйшлі развітацца з абразом, пробашч парафіі кс. Вячаслаў Адамовіч заўважыў: "Сёння мы развітаемся з цудадзейным абразом, які доўгі час знаходзіўся ў нашай святыні, але мы не развітаемся з Маці Божай. Бо яна, як Маці ўсіх, хто вызнае веру ў Яе сына Езуса Хрыста, ніколі нас не пакіне. Яе матчына апека над намі будзе трываць заўсёды".

У знак удзячнасці Маці Божай за Яе прысутнасць і мацярынскую апеку вернікі памаліліся перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Марыйнае набажэнства распачалося Гадзінкамі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі, а завяршылася Ларэтанскай Літаніяй.

Затым у прысутнасці біскупа Віцебскага Алега Буткевіча канцлер Курыі ксёндз-канонік Віктар Місевіч зачытаў гісторыю абраза Маці Божай Друйскай.

На ўрачыстую перадачу абраза ў Ідолту прыехалі вернікі з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі на чале з пробашчам доктарам тэалогіі кс. Сяргеем Сурыновічам. Парафіяне прыбылі не з пустымі рукамі. У знак удзячнасці за руплівае захоўванне абраза Маці Божай Друйскай яны перадалі парафіі ў Ідолце абраз Маці Божай Шкаплернай. Гэты абраз быў напісаны падчас VIII-га Мастацкага пленэру, што ладзіўся ў Друі ў жніўні гэтага года.

Біскуп Алег Буткевіч асвяціў новы абраз, а затым адбылося ўрачыстае падпісанне Акта перадачы абразоў Маці Божай Друйскай і Маці Божай Шкаплернай. У Акце, акрамя інфармацыі аб перадачы абразоў, сказана: "Няхай гэтыя абразы спрыяюць пашырэнню Марыйнага культу ў гэтых парафіяльных супольнасцях. Няхай атрымаюць шматлікія Божыя ласкі тыя вернікі, якія спрычыніліся да захавання старажытнага абраза і напісання новага".

Біскуп Алег Буткевіч, звяртаючыся да прысутных, адзначыў: "Сёння асаблівым чынам мы радуемся і дзякуем Пану Богу за тое, што гэтая вялікая святыня была захаваная. Дзякуем тым людзям, якія адчувалі адказнасць, якім балела сэрца за святыню, праз каторую чалавек шукаў і знаходзіў шлях да Бога, праз пасярэдніцтва каторай атрымліваў вялікія ласкі, каб яна і далей служыла сведчаннем любові да Усемагутнага Бога".

З вялікай пашанай і радасцю ў сэрцы сустракалі абраз Маці Божай ў Друі. Пасля таго, як ён быў змешчаны на часовым, спецыяльна падрыхтаваным месцы, распачалася ўрачыстая святая Імша, у каторай прынялі ўдзел святары Мёрскага і Браслаўскага дэканатаў. Узначаліў Эўхарыстыю біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

У сваёй гаміліі, разважаючы над роляй Маці Божай у жыцці Касцёла і жыцці кожнага чалавека, Яго Эксцэленцыя адзначыў: "Для нас як вернікаў Найсвяцейшая Панна Марыя – гэта так, як прысутнасць маці ў жыцці дзіцяці. Усе страхі, увесь непакой, уся небяспека адыходзяць тады, калі мы адчуваем яе матчыну блізкасць, адчуваем біццё яе матчынага сэрца. Так будзе сёння ў гэтай парафіі. Тая, Якая была тут на працягу трохсот гадоў, Якая атуляла апекай сваіх дзяцей, і далей будзе прабываць сярод нас. Важна, каб мы адкрылі свае сэрцы на Яе Матчыну ласку, на Яе Матчыну любоў".

Пасля Эўхарыстыі пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі кс. Сяргей Сурыновіч падзякаваў усім за супольную малітву. Святар заахвоціў парафіянаў да ўдзелу ў набажэнствах першых суботаў месяца, якія будуць адпраўляцца перад абразом Маці Божай Друйскай.

Пасля Імшы вернікі ўшанавалі абраз Маці Божай Друйскай праз прыватную малітву.






**Гістарычная даведка**

Цудадзейны абраз Маці Божай быў прывезены ў Друю падчашым Браслаўскім Пятром Казімірам Качаноўскім з Вільні ў канцы XVII стагоддзя і першапачаткова знаходзіўся ў драўляным касцёле Адведзін Найсвяцейшай Панны Марыі.

Цудадзейны абраз Маці Божай Друйскай з'яўляецца копіяй абраза Маці Божай з базылікі Santa Maria Maggiore ў Рыме. Ён вядомы на айчыне як Salus Populi Romani (Пратэктарка Рымлянаў), а на землях Рэчы Паспалітай – як Маці Божая Снежная (Santa Maria ad Nives).

Абраз Маці Божай Друйскай намаляваны на палатне і аздоблены металічнымі шатамі з каронамі. Зафіксаваныя шматлікія сведчанні цудаў аздараўленняў і ацаленняў вернікаў, якія звярталіся ў сваіх патрэбах да Багародзіцы перад Друйскім абразом Маці Божай.

Пасля пабудовы ў Друі даміканскага муравага касцёла пад тытулам Апекі Маці Божай і яго асвячэння ў 1779 годзе абраз быў змешчаны ў галоўным алтары новай святыні. Пасля закрыцця даміканскага касцёла і кляштара царскімі ўладамі абраз перадалі ў касцёл Святой Тройцы. У 1943 годзе касцёл і кляштар Святой Тройцы былі адабраныя нямецкімі захопнікамі і ператвораныя ў сядзібу карнай экспедыцыі. 4 ліпеня 1944 года ў касцёл трапілі бомбы, а каля 1947 года савецкія ўлады гвалтоўна яго зачынілі. Прыблізна ў гэтым прамежку часу абраз Маці Божай Друйскай, для яго бяспекі, быў перавезены ў касцёл у Ідолце.

*Жанна Закрэўская,*
*kascelmery.by*

# У Браславе адзначылі 20 гадоў руху "Маці ў малітве"

**У нядзелю, 11 верасня, супольнасць руху "Маці ў малітве" ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў адзначыла 20-годдзе існавання. У свеце гэты малітоўны рух існуе 27 гадоў і 21 год у Беларусі.**

Святая Імша на адзінаццаць гадзін аб'яднала прысутных малітвай падзякі за ўдзельніц гэтага руху, якія прыбылі з многіх куткоў Віцебскай дыяцэзіі: Паставаў, Камаяў, Лынтупаў, Лучая, Відзаў, Глыбокага, Верхнядзвінска, Далёкіх, Шаркаўшчыны, Пагошчы і віцебскіх парафій Святой Барбары і Святога Антонія. Прысутнічала таксама каардынатар руху у Беларусі Людміла Губіна.

Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. На пачатку гаміліі біскуп павіншаваў удзельніц руху з такой прыгожай датай. Па словах біскупа, малітва за дзяцей, за новае пакаленне – гэта вельмі важная справа, бо праблемы ў сем'ях, якія цяпер мы перажываем, з'яўляюцца наступствам часоў атэізму, бязвер'я трох пакаленняў. Таму салідарнасць, супольная малітва маці вельмі важная, як важны і ўласны прыклад жыцця.

"Невымоўна, што тут, у Браславе, маці яднаюць сваю малітву з малітвай Найсвяцейшай Панны. Той, Якая хоць і была пазбаўлена праблем, выкліканых першародным грахом, але многае перажывала разам са сваім Сынам: яго пакуты, адносіны іншых", – адзначыў біскуп Алег. І дадаў, што хоць усе мы часам з'яўляемся заблукалымі авечкамі, але разам з тым можам маліцца за іншых. Што і маем рабіць.

Пасля літургіі ўдзельнікі руху сустрэліся за абедам у парафіяльным доме імя а. Францішка Ярдана.

*Waladarka.by*



# Селфи: плюсы и минусы современного вида фотографии

**Современная культура не перестает предлагать нам все новые способы удовлетворения естественной потребности во внимании и любви. А значит, поговорим мы сегодня о селфи – многогранном явлениии современного мира со всеми его плюсами и минусами.**

■ Марина Ткач, *психолог*

Прежде чем рассматривать феномен селфи через призму психологии, обратимся к истории данного явления.

Казалось бы, что селфи – это продукт сегодняшнего дня, однако оно имеет свою, довольно длинную историю. Первая известная к настоящему времени селфи-фотография была сделана американским фотографом-любителем Р. Корнелиусом в 1839 г. В России первые фотоснимки собственного отражения в зеркале были сделаны великой княжной Анастасией Романовой, когда ей было 13 лет. Эти фотографии считаются первыми селфи, сделанными подростком. Развитие технического прогресса привело к тому, что фотографирование своего отражения в зеркале стало определенным приемом, которым пользовались как профессионалы, так и любители снимков.

**Се́лфи** (англ. *"selfie" от "self" – сам, себя)* – разновидность автопортрета, заключающаяся в запечатлении самого себя на фотокамеру. Термин приобрёл известность в конце 2000-х – начале 2010-х годов благодаря развитию встроенных функций фотоаппарата мобильных устройств. В 2013 г. Оксфордский словарь назвал термин "селфи" словом года, определив его как " фотографию, сделанную самим собой, обычно со смартфона или веб-камеры, и распространяемую через социальные сети".

В современных реалиях мы нередко воспринимаем селфи как негативное явление, которое вызывает у нас различные эмоции, в том числе раздражение и недоумение: почему даже взрослые люди поддаются этой моде?

На сегодняшний момент психологические аспекты феномена селфи мало изучены. Психологи и социологи поразному относятся к данному явлению и неодинаково оценивают степень влияния селфи на личность человека. Однако можно сказать, что на склонность человека к увлечению селфи влияют определенные личностные черты. Например, низкая самооценка. Другими словами, такие люди находятся в хроническом дистрессе под названием "Я недостаточно хорош". Они зависят от мнения окружающих, им важно, что скажут о них другие люди.

Кроме того, проявляется стремление все контролировать. Такие люди должны заранее все просчитать, подготовить, проверить других. Параллельно с этим может присутствовать перфекционизм – стремление, чтобы все было сделано идеальным образом. Селфи как раз дает такое ощущение. Такому человеку не нравится, как он выглядит на фотографии, если его фотографируют другие. Зато из своих снимков он будет выбирать самые, как ему кажется, удачные. Тем самым он создает идеальный образ самого себя для презентации окружающим.

Говоря о селфи, я бы не была столь категорична: в нем, как и в любом другом аспекте нашей жизни, есть как хорошее, так и плохое. Давайте начнем с **хорошего**.

Существует мнение, что селфи помогает принять себя таким, какой ты есть на самом деле, со всеми недостатками и достоинствами, преодолевать комплексы, живя открыто и постоянно демонстрируя себя. Возможно, это отчасти правильно, так как постоянно фотографируя и выкладывая себя, получая обратную связь со стороны в виде комментариев и лайков, можно лучше себя узнать. Но такое возможно при условии, что человек адекватно реагирует на критику к своим фотографиям.

Селфи можно рассматривать также как творческий процесс, некоторый новый способ общения, когда большой объем информации помещается в один виртуальный образ, одну фотографию. В этом случае фотографии должны действительно быть произведением искусства, а не чередой однотипных снимков.

Еще одно мнение, что замкнутым молодым людям со сложностями в общении селфи может помочь выразить свои эмоции, справиться с негативными мыслями по поводу своей внешности, получая дополнительные лайки и позитивные комментарии. Основной позитивный эффект селфи заключается в том, что с его помощью можно почувствовать себя более красивым, интересным, популярным.

Что касается **минусов селфи**, то они следующие. Чтобы делать селфи, тратится очень много времени, и иногда это может мешать человеку выполнять свои основные функции. Некоторые делают селфи настолько часто, что это заставляет усомниться в том, делали ли они что-то, кроме как фотографировали себя. Например, когда человек, находясь на экскурсии, вместо того, чтобы наслаждаться красотой окружающего мира, делает селфи, и в результате в его альбоме – 200, 300, 400 однотипных фотографий, а "живых", ярких впечатлений нет.

Делая селфи и выкладывая его в социальные сети, мы ждём лайков и позитивных комментариев о своем фото. Отсутствие лайков или отрицательные комментарии могут не просто огорчить человека, а дестабилизировать, вызывая длительные негативные эмоции. Конечно, это, скорее, относится к людям чувствительным и болезненно реагирующим на любую критику.

Процесс постоянного фотографирования себя учит воспринимать реальность поверхностно, здесь важным является не внутреннее наполнение, а внешнее. Человек становится товаром, который нужно разрекламировать.

С помощью селфи люди пытаются ответить на вопрос: "Какой я? Я такой или вот такой?". Это своего рода поиск идентичности. И, казалось бы, что тут плохого? Но вопрос в том, что надо найти внутреннюю точку отсчета, когда "выставленный на показ" образ не замещает того человека, каким ты сам себя чувствуешь. И если поиск затягивается за пределы юношеского возраста и перетекает в пору зрелости, тогда мы уже говорим об инфантилизме или нарастающем нарциссизме. Реальность превращается в погоню за удачным снимком, причем это погоня может нести угрозу жизни человека.



Еще одна опасность селфи в том, что люди перестают общаться вживую. Селфи становится некоторым способом ухода от реальной реализации потребностей, от взаимодействия с людьми, от решения назревших психологических проблем.

Некоторые специалисты считают, что селфи – это вид психического расстройства. Например, американская психиатрическая ассоциация признала селфи обсессивно-компульсивным расстройством, которое проявляется в постоянном желании фотографировать себя, выкладывать в сеть, получать большое количество лайков, тем самым компенсируя дефицит внимания и положительных эмоций.

Подводя итог, хочу сказать, что само по себе селфи – хороший способ самоутверждения, самореализации, творчества. И для того, чтобы оно таким и оставалось, важно чувствовать меру. В противном случае селфи превратиться в единственный способ выразить себя и станет навязчивой формой реализации потребности во внимании.

# Ты на дрэве не адзін! Курс "Закхей": як гэта было

**Часта дарослым падаецца, што галоўнае ў падлеткавым узросце – гэта вучоба. Падлеткі ж мяркуюць, што галоўнае – гэта каханне і сябры. Насамрэч, і тое, і тое важна. Але неабходная ўмова кожнай з гэтых важных частак жыцця – добрае атачэнне, "добрая кампанія", супольнасць аднадумцаў.**

■ Паліна Грыб

Вялікая вартасць хрысціянскіх летнікаў і курсаў не толькі ў іх змесце і духоўным "зарадзе", якія яны даюць на доўгі час, але таксама і ў тым, што на сустрэчах такога кшталту фармуецца якасная хрысціянская супольнасць, дзе кожны чалавек можа знайсці не толькі сяброў, але і навучыцца суіснаваць з тымі, з кім часам цяжка паразумецца.

Гэтым разам на курсе для падлеткаў "Закхей" было каля сямідзесяці асобаў. Кожны з удзельнікаў прыехаў у Оршу са сваёй гісторыяй. Хтосьці чакаў сустрэчы ўсё лета, хтосьці прасіў бацькоў адпусціць яго ў першы раз, для кагосьці вопыт гэтых рэкалекцый стаў першай сустрэчай з касцёлам увогуле. Праграма пяцідзённага курсу была разлічаная такім чынам, каб кожнаму госцю рэкалекцыйнага дома было не толькі цікава, але і камфортна. Хоць асноўнай тэмай летняга "Закхея" стаў радыкалізм у хрысціянскім жыцці, ход сустрэчы выявіў, што важнай была праца над стварэннем супольнасці і разуменнем таго, што такое супольнасць.

Так, напрыклад, адзін з дзён быў цалкам прысвечаны пазнанню і падрыхтоўцы да галоўнай супольнай малітвы касцёла – святой Імшы. Эўхарыстыя стала апошнім пунктам праграмы і распачыналася амаль а дзясятай гадзіне вечара для таго, каб удзельнікі мелі ўвесь дзень для падрыхтоўкі да Вячэры Пана, а таксама для таго, каб у атмасферы "пустыні", якая распачалася за некалькі гадзінаў да Імшы, скончыць дзень у паяднанні з Божым словам і прынятым сакрамантам. Інтэлектуальную падрыхтоўку да вячаровай малітвы забяспечвалі ранішнія канферэнцыі пра сэнс і сутнасць хрысціянскай ахвяры ад дк. Яўгена Мельніка MIC, а таксама пра сімвалы і складнікі святой Імшы ад с. Ліліі Дарожкі SJE.



Важнай характарыстыкай здаровай супольнасці з'яўляецца яе адкрытасць на новых людзей, яе здольнасць расці і развівацца. Лагічным завяршэннем курса стаў вечаровы евангелізацыйны канцэрт, куды мог патрапіць кожны ахвотны. Ва ўнутраным дворыку парафіяльнага дома была абсталяваная летняя сцэна, з якой гучалі не толькі хрысціянскія спевы, але таксама катэхэза кс. Яўгена Шымановіча і сведчанне аніматара Ганны Фёдаравай. Сапраўды, вечар атрымаўся надзвычай цёплым і сабраў шмат зацікаўленых людзей, якія потым дзяліліся прыемнымі ўражаннямі і жаданнем паўдзельнічаць у такім мерапрыемстве яшчэ раз.

А чаму б не?! На шчасце, курс "Закхей" адбываецца ў Оршы штосезон, а таму ў наступныя сустрэчы таксама можа ладзіць розныя евангелізацыйныя акцыі, бо ўжо стаў камандай аднадумцаў.

Мы маглі б распавесці пра іншыя пункты праграмы, апісаць яскравыя моманты адпачынку і дакрануцца да глыбокіх духоўных разважанняў удзельнікаў, але такія рэчы лепей перажываць самому. Таму запрашаем вас далучацца да рэкалекцыйных курсаў у Оршы і разам будаваць новыя трывалыя супольнасці Касцёла-пілігрыма.

# In memoriam...



**Айцец Станіслаў Памыкала SJ, які адышоў да Пана пасля цяжкай хваробы, дзесяць гадоў працаваў у розных парафіяльных супольнасцях Віцебскай дыяцэзіі. Мы спыталіся вернікаў і святароў пра яго душпастырскае служэнне.**

**Айцец Клеменс Верт SJ, парафія святога Уладзіслава (Віцебск):**



– Несколько лет мы жили с о. Станиславом в доме духовных упражнений, прежде чем он приехал в Беларусь. Когда у нас появился свой (иезуитский) приход уже в Беларуси, мы переехали в квартиру, где создали иезуитскую общину.

Мы с ним часто проводили вечера. Сидели, говорили про политику. Вели дискуссии на разные темы, с ним было интересно поговорить о жизни. Мы часто разговаривали про его поездки, в которых он сопровождал Папу как журналист. Станислав всегда был энергичный, живой, никогда не стоял на месте. Он любил пообщаться.

**Сцяпан, парафія святога Уладзіслава (Віцебск):**



– З айцом Станіславам мы часта хадзілі з касцёла адным шляхам, размаўлялі, маліліся на ружанцы. Наогул ён кожны вечар хадзіў на шпацыры, падчас якіх маліўся на ружанцы, казаў, што "трэба намаляваць дарогу ў Білеве".

З ім было проста, добра размаўляць. Можна было звярнуцца з любым пытаннем, ён заўсёды нешта падкажа, растлумачыць. Увесь час хадзіў з усмешкай, нягледзячы на акалічнасці. Гэта моцна падтрымлівала. Ён заўсёды казаў: тое, што Бог даў, мы павінны перажыць.

Па калядзе да нас хадзіў кожны год. Размовы з ім былі доўгія, прысвечаныя рэлігіі і жыццю. Пасля іх станавілася спакойна на душы. Памятаю, як прыйдзе, скажа "ты мой пляменнік, а я твой дзядзька", – бо быў на пяць гадоў старэйшы за мяне.

Мог бы затрымацца з намі і надаўжэй, хаця б, каб убачыць Касцёл. Танцаваў бы ён тут у нас, як танцаваў там (у капліцы). Памятаю, неяк ішлі мы з касцёла, а побач машына спынілася, і з машыны музыка, а ён сутану прыўзняў і пачаў танцаваць, а вакол снег... Вясёлы быў.

**Ірына, парафія Святой Тройцы (Глыбокае):**



– Айцец Станіслаў Памыкала падчас свайго служэння ў нашай парафіі праводзіў біблійныя сустрэчы для дарослых. Гэта быў вельмі адукаваны чалавек, але ніколі не паказваў, што шмат ведае. Наадварот, паводзіў сябе вельмі проста, любіў жартаваць, смяяцца і гэтым прыцягваў да сябе. Было сапраўды прыемна, я часта вярталася да тых прыкладаў, якія ён даваў.

Памятаю момант, які паказвае, якім чынам ён ставіўся да цярпення. Калі ў мяне цяжка хварэла мама, айцец Станіслаў папрасіў яе ахвяраваць гэтыя цярпенні за яго, каб гэта было недарэмна, "бо ў Бога нічога недарэмна" І такія думкі неяк дапамагалі маці, прынамсі духоўна.

Таксама быў іншы момант, які застанецца ў памяці на ўсё жыццё. На наступны дзень пасля Вялікадня мы як валанцёры збіраліся ў лякарню адвезці прысмакі. У той дзень айцец Станіслаў быццам бы свяціўся ад радасці, спяваў нешта на польскай мове, прытанцоўваў, усюды казаў "Хрыстос уваскрос!" Гэта была сапраўды шчырая радасць, нібы дзіцячая. І вось у лякарні мы сустрэлі праваслаўнага святара, той неяк засмуціўся… Айцец Станіслаў раскінуў рукі і прывітаў яго з братэрскай любоўю. Быў ён сапраўды адкрыты чалавек.

**Сястра Даша Галубкова OV, Апостальская Нунцыятура (Казахстан):**



– Памятаю, калі айцец Станіслаў яшчэ быў духоўным айцом Віцебскай дыяцэзіі, то падчас рэгулярных спатканняў святароў і сясцёр з біскупам ён заўжды рабіў канферэнцыі, на якіх казаў вельмі цікавыя, сапраўды жыццёвыя рэчы. Часта ён пераказваў свой жыццёвы вопыт, даваў асабістыя прыклады, адкрываў душу. І гэта было вельмі каштоўна, бо разумею, што не кожны адважыўся б так рабіць. Ён не баяўся шчыра выказваць свае думкі, не шукаючы далікатных словаў, не стараючыся ўсім дагадзіць, гаворачы праўду, што часам бывае брыдкая і нязручная.

Казаў ён, аднак, і пра іншую праўду: аб міласэрнай і ахвярнай Божай любові, якая здольная ўсё прабачыць. У казаннях падчас Святых Імшаў у парафіі Св. Уладзіслава ў Віцебску, дзе я мела гонар працаваць побач з айцом Станіславам, ён амаль кожны раз паўтараў гэтую праўду. Тады мне здавалася: ну колькі можна казаць адны і тыя ж відавочныя рэчы? Аднак, калі айцец Станіслаў вярнуўся ў Польшчу, я адчула, як мне гэтага не хапае, як цудоўна, што ён нястомна нагадваў пра тое, што Бог нас любіць і прабачае, і што мы павінны паступаць гэтаксама ў адносінах да нашых бліжніх.

Я веру, што наш дарагі айцец Станіслаў сустрэўся з міласэрнай Божай Любоўю ў Валадарстве Нябесным.

**Ірына, парафія святога Антонія (Віцебск):**



– Калі ў нас служыў а. Станіслаў, для нашай парафіі быў бласлаўлёны час. І мне пашанцавала бачыць яго не толькі ў касцёле, але і даволі часта прымаць у сябе дома.

Асабліва ён наблізіўся да нашай сям'і, калі пачаў прыходзіць да маёй мамы (бо была невылечна хворая). Тады мы вельмі патрабавалі падтрымкі, а ён дапамог прыняць гэтую сітуацыю і яшчэ доўга падтрымліваў нас духоўна. Ён рабіў вялікі акцэнт на прабачэнні і міласэрнасці. Казаў, што прабачыць – не азначае забыць, але аднавіць сувязь.

Гэта быў чалавек, які моцна любіў жыццё і людзей. Сапраўды меў дар любіць кожнага чалавека, якога сустракаў у сваім жыцці. Яму было важна, што гэта за чалавек, чым ён жыве, ён цікавіўся ўсім. З ім было вельмі проста, адчувалася айцоўскае, поўнае любові сэрца. Любіў разглядваць людзей, казаў, што пра чалавека можа шмат распавесці яго паходка.

Вельмі любіў пажылых людзей. Мог проста да іх вечарам паехаць на каву. Не таму, каб споўніць нейкую місію ці доўг, але проста пасядзець з імі, паразмаўляць. Нават калі ўжо ў нас не служыў, прыязджаў да адной пажылой парафіянкі. Цаніў пажылых за "труд жизни". Яшчэ казаў, што старасць – гэта вялікая ласка. Гэта мне заўсёды здавалася цікавым, і аднойчы я ў яго запытала, якая ж гэта ласка – старасць? Тады дадаў: "Але цяжкая ласка".

Ніколі не забуду вось такі вобраз: кожны раз, як развітваліся, ён з усмешкай падымаў руку і казаў: "Chiao!"

## У Варшаве развіталіся з памерлым а. Станіславам Памыкалам SJ

**9 верасня езуіты развіталіся са сваім сабратам а. Станіславам Памыкалам SJ у Нацыянальным санктуарыі св. Андрэя Баболі ў Варшаве. Пахавальную святую Імшу цэлебраваў біскуп Алег Буткевіч, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі. Казанне прамовіў айцец Юзэф Аўгустын SJ.**

"Мы развітваемся з чалавекам, унутрана свабодным, поўным спагады да бедных, верным сябрам, вялікім прыхільнікам Беззаганнай. Дзякуючы Ёй ён разумеў свет беззаконня і зла", – сказаў у сваім казанні а. Юзэф Аўгустын SJ. Ён таксама назваў памерлага ва ўзросце 72 гадоў сабрата святаром з "містычнай душой".

Святар нагадаў, што айцец Станіслаў трыццаць гадоў прапрацаваў у Расіі ў Сібіры, у Казахстане, Кіргізіі, Украіне і Беларусі. Ён быў заснавальнікам і першым дырэктарам Цэнтра духоўнасці "Ініга" ў Новасібірску, вёў заняткі ва ўніверсітэце.

Айцец Аўгустын падкрэсліў, што найважнейшай працай а. Станіслава ў краінах былога Савецкага Саюза было правядзенне духоўных практыкаванняў па метадзе святога Ігнацыя Лаёлы. Ён адзначыў, што а. Станіслаў ездзіў па ўсёй тэрыторыі былога СССР і праводзіў ігнацыянскія рэкалекцыі, у якіх ён быў сапраўдным майстрам.

"Вярнуўся ў Польшчу ў 2020 годзе, калі яму паставілі дыягназ – рак. "Я шмат разоў гаварыў з ім падчас яго хваробы, і я заўсёды быў уражаны яго незвычайнай надзеяй, святлом, даверам Богу, пакорай, унутранай свабодай, дакладнай памяццю пра сяброў", – успамінае а. Аўгустын.

"Айцец Станіслаў ведаў і казаў адкрыта, што хвароба была для яго ласкай, якая павінна была падрыхтаваць яго да адыходу ў дом Айца", – дадаў ён.

*Па матэрыялах jezuity.by, ekai.pl*



*Фота: Лукаш Сосьняк SJ*

# Айцец Віктар Мялешка. Гутарка з маладым францішканінам

**Пан Бог заўсёды блізкі да чалавека. Ён любіць і запрашае да блізкіх адносін і супрацоўніцтва. Калі на заклік Божай любові чалавек адказвае "так", у жыцці адбываюцца неверагодныя рэчы. Сёння мы паразмаўлялі з айцом Віктарам Мялешкам, францішканінам, ініцыятарам і кіраўніком экстрэмальна-пакутніцкай пілігрымкі Удзела – Браслаў 2022.**

**– Айцец Віктар, скажыце, калі ласка, пару слоў пра сябе: дзе нарадзіліся, у якой сям'і выхоўваліся і як адчулі голас пакліканне?**

– Я нарадзіўся ў Гродне, у лістападзе 1994 года. У красавіку 1994 года атрымаў сакрамант хросту, падчас якога мяне назвалі Віктарам. Я ўдзячны бацькам за тое, што выбралі гэтае імя для мяне, бо я яго сапраўды люблю. Мая сям'я змешаная – каталіцка-праваслаўная, але бацькі, калі бралі сакрамант шлюбу ў касцёле, абяцалі выхаваць мяне ў каталіцкай веры. Таму мама прывяла мяне на катэхезу да Першай Святой Камуніі. Упершыню прыняў Цела Хрыста ў 2007 годзе, маючы 13 гадоў. З гэтага моманту пачалося маё свядомае духоўнае жыццё.

Трэба сказаць, што законная сястра, якая вяла катэхезу, была з Польшчы і па-польску праводзіла заняткі. Я нічога не разумеў, але нейкім цудам здаў экзамен і прыняў Езуса Хрыста ў сваё сэрца. Тады захапіўся духоўным жыццём, адкрыў яго для сябе. У той час адказным за міністрантаў у парафіі быў Павел Раманчук (сёння – айцец Павел, францішканін, які служыць у Івянцы). Сустрэліся мы ў школе, ён успомніў, што бачыў мяне ў касцёле, узяў нумар тэлефона і запрасіў служыць міністрантам пры алтары. Айцец Павел (тады – проста Паша) захапіў мяне сваёй паставай. Я хацеў быць міністрантам, такім як ён. Бо, будучы вучнем старэйшых класаў, Паша насіў вялікі крыж, заўсёды стаяў пры алтары і быў для мяне прыкладам.

Я таксама пачаў хадзіць кожны дзень на святую Імшу і служыць пры алтары. Лічу, што ўжо тады Пан Езус пачаў наводзіць парадкі ў маім сэрцы.

Другой сям'ёй для мяне стала душпастырства францішканскай моладзі. Гэта была цудоўная супольнасць, дзе мы сустракаліся некалькі разоў на тыдзень. Бацькам здавалася, што я жыву больш пры парафіі, чым дома. І сапраўды, я памятаю адно лета, калі дома за тры месяцы я прабыў усяго сем дзён.

Адным словам, я заўсёды актыўна ўдзельнічаў у парафіяльным жыцці. І калі надышоў час рабіць выбар, кім стаць у дарослым жыцці, ідэй было шмат. Але заўсёды адчуваў голас пакліканне, жаданне пайсці ў францішканскі ордэн. Святары, якіх я бачыў, вельмі ўзрушалі сваёй паставай і прыкладам жыцця. Я марыў быць такім, як яны, мець такі ж падыход да жыцця, хацеў быць разам з імі, бо бачыў іх стасункі між сабой, бачыў атмасферу, якая панавала ў кляштары, адчуваў, што іх сэрцы заўсёды напоўненыя радасцю, нават калі было цяжка. Я вельмі жадаў такім стаць, імкнуўся да гэтага і ў супольнасці францішканаў адкрываў сваё пакліканне. Такім чынам, у адзінаццатым класе я добра ведаў, што, калі не стану законнікам, то буду шкадаваць усё жыццё. З выбарам закону пытанняў не было таксама: я заўсёды ведаў, што або стану францішканінам, або буду мужам і татам.

Так я пайшоў да францішканаў. Нічога дзіўнага не адбылося з тым пакліканнем: не прыйшоў да мяне анёл. Голас пакліканне – інтымная справа, гэты голас можна адчуць толькі сэрцам. Для гэтага патрэбныя цішыня і жаданне сапраўды слухаць. Я лічу, што пакліканне не трэба распазнаваць, яго трэба пачуць. Пакліканне – гэта ласка ў сэрцы. Калі я адчуў гэтую ласку, то з лёгкасцю пакінуў усё: сяброў, бацькоў, родных, нават раздаў сваё каляровае адзенне, бо лічыў, што ў кляштары мне не дазволяць яго насіць. Канешне, напачатку меў тугу па сям'і і блізкіх людзях, па доме. Але потым менавіта францішканская супольнасць братоў стала маёй сям'ёй, а кляштар – домам.

Ведаю, што, калі б я не адказаў на заклік да святарства, Пан Бог благаславіў бы мяне на сужэнскае жыццё. Але дзякую Яму за пакліканне і адчуваю сябе шчаслівым, бо ад маладых гадоў магу служыць тут, у ордэне францішканаў. Ужо зараз я адкрываю для сябе: не важна Богу, дзе мы будзем і што мы выберам. Важна быць верным свайму пакліканню.

Будучы святаром, я праводжу рэкалекцыі для моладзі і студэнтаў. Гэта час, калі яны не маюць тэлефонаў, знаходзяцца ў цішыні, на адарацыі. Гэты час патрэбны не для таго, каб "загаварыць Бога", але каб пачуць Яго голас.

Да мяне таксама Езус Хрыстус прамовіў менавіта ў цішыні. Я адчуў, што Бог кліча і запрашае мяне. І самае прыгожае, што ёсць у сапраўднай веры, – гэта свабода. Бог не кажа нікому "ты мусіш", "ты павінен". Бог кажа: "Запрашаю, ідзі за Мною. Калі хочаш быць шчаслівым – рабі тое і тое. Калі не хочаш быць шчаслівым – не рабі. Але ты свабодны". Бог нас любіць, таму дае свабоду.

**– Дзе Вы праходзілі манаскую фармацыю і якой была Вашая першая парафія?**

– Час фармацыі для ўсіх францішканаў праходзіць у Польшчы. Пастулат і навіцыят я праходзіў у Смардзевіцах і шэсць гадоў семінарыі ў Лодзі. Што праўда, час семінарыі працягнуўся на сем гадоў. Пасля чацвёртага курса я ўзяў акадэмічны адпачынак. Гэта быў час адпачынку ад кніжак і лекцый, але вельмі багаты на душпастырскую дзейнасць. Менавіта гэта і была першая парафія ў маім душпастырстве. Я трапіў у Скаржыцка-Каменнае – вельмі добрую супольнасць, якая налічвала сем братоў. Меў там вялікае душпастырскае служэнне: праводзіў катэхезы, займаўся з дзеткамі ў святліцы, меў невялікі хорык. Гэта быў плённы год, калі я адкрыў шмат розных рэчаў пра сябе.

Пасля завяршэння семінарыі і святарскага пасвячэння быў скіраваны ў вёску Удзела (Віцебская дыяцэзія). Часам моладзь, якой апякуюся, жартуе, што ў Удзеле мне падабаюцца толькі прыгожыя захады сонца. Але гэта няпраўда. У гэтай вёсцы ў парафіяльнай супольнасці пануе цёплая, прыязная атмасфера, якая робіць маё служэнне вельмі цікавым.

Тут я займаюся маладым пакаленнем: праводжу спатканні, катэхезы ад першага класа і да адзінаццатага, апякуюся міністрантамі. Яшчэ я займаюся студэнтамі. Мара св. Максімільяна была здабыць свет для Беззаганнай. Таму ў працы са студэнтамі я выходжу за межы Удзела і імкнуся служыць для студэнтаў хаця б з Беларусі.

Апроч гэтага, я маю шматлікія абавязкі ў ордэне. Увогуле служэнне ў кляштары вельмі цікавае. З паслухмянасці ты робіш усё, "што ўпадзе на галаву". Сёння можаш рабіць адно, заўтра другое. І не важна, ці ўмееш ты гэта рабіць, ці не. Калі робіш справы з паслухмянасці свайму настаяцелю, то Пан Бог дае адпаведныя таленты і магчымасць іх развіваць. Напрыклад, калі мне сказалі даглядаць кветкі, за першы год яны павялі. Але потым знайшоў і прачытаў добрую кніжку – і навучыўся.

Манаства – гэта добрая магчымасць навучыцца чамусьці новаму і зразумець, што вялікія рэчы прыходзяць праз пакору, моцаю Божай.

**– Апроч катэхезаў, душпастырства моладзі, манаскіх абавязкаў Вы з'яўляецеся ініцыятарам і арганізатарам пакутніцкай экстрэмальнай пілігрымкі з Удзела ў Браслаў, якая адбылася ў гэтым годзе. Раскажыце, калі ласка, як узнікла ідэя такой пілігрымкі?**

– Ідэя пакутніцкіх пілігрымак з'явілася ад святога Францішка і францішканскай духоўнасці. Мне заўсёды была блізкай малітва перапрашэння за свае грахі.

Першая мэта такіх пілігрымак – гэта перапрасіць і адпакутаваць, памаліцца ў інтэнцыі прабачэння за свае грахі, за грахі сем'яў, за грахі Айчыны.

Асноўная ідэя пілігрымкі такая: калі чалавек адыходзіць ад Бога, знаходзіць сябе ў дабрабыце, у матэрыяльным шчасці. І вось, калі ў дарозе чалавек не мае матэрыяльнага дабрабыту, сустракае фізічныя цяжкасці, даходзіць да максімальнай стомленасці, то перастае разлічваць на сябе, а пачынае разлічваць на Пана Бога. Сама сітуацыя прымушае яго клікаць Бога, звяртацца да Яго, шчыра маліцца. У такіх умовах чалавек пачынае бачыць Божы Провід, Яго апеку і любоў.

Пілігрымка Удзела – Браслаў стала экстрэмальна-пакутніцкай. Экстрым заключаўся ў тым, што мы ішлі тры дні пад спёкай, несучы ўсе свае рэчы з сабою. Мы вырашылі не браць з сабой ні ежы, ні грошай, поўнасцю даверыліся Пану. Гэта сапраўды быў той момант, калі кожны стаў перад Богам з даверам і сказаў Яму: "Я – Тваё дзіця, Ты – мой Айцец, прашу, клапаціся пра мяне".

Сімвалам пакуты быў крыж, які нёс у руках кожны ўдзельнік пілігрымкі. Мы перапрашалі за свае грахі, за грахі Касцёла і грахі краіны. Ісці з крыжамі ў пілігрымцы, пераадольваць шлях пры тэмпературы +30 С было вар'яцтвам. Але Бог даваў ласку, перамяняў нашыя сэрцы. Спачатку мы ўбачылі свае грахі, перапрашалі за іх,



наноў вучыліся любіць сябе. Наступным крокам стала імкненне любіць іншых, перапрашаць і пакутаваць за грахі іншых людзей. Калі прасілі прабачэння за грахі Касцёла, гэта быў цудоўны час. Моладзь магла стаць у абарону Касцёла, маліцца і пакутаваць за іншых.

Заўважу, што падчас шляху мы не размаўлялі, не спявалі. Гэта быў шлях, поўны засяроджанасці, разважанняў, паглыблення ў сваё сэрца. Так у цішыні і малітве Пан Бог перамяняў нашыя сэрцы, і плён гэтага перамянення мы бачылі ўжо падчас пілігрымкі.

Да нас прыйшла ідэя зрабіць пілігрымкі "Пакутуем за…" і праводзіць іх з розных парафій. Ужо сёння запрашаю святароў і свецкіх асобаў падтрымаць гэтую ініцыятыву і прыняць удзел у такіх паломніцтвах, а можа, нават арганізаваць са сваіх парафій.

**– Што найбольш радуе і натхняе ў Вашым святарскім служэнні?**

– Найбольш радуе ўсведамленне таго, што Бог чувае, Бог побач незалежна ад таго, што мы робім: арганізоўваем нейкія ініцыятывы, ці проста выконваем свае штодзённыя абавязкі.

У душпастырскім служэнні радуе, калі бачу плён свайго служэння. Я шчаслівы, калі бачу, што моладзь, дзеці жывуць тым, чаму я іх навучаю, прыходзяць па парады, дзеляцца сваімі радаснымі і цяжкімі момантамі жыцця. Гэта знак таго, што я на добрым шляху.

*Размаўляла*
***Вікторыя Філіпенка***





# “Будзь алоўкам у руцэ Марыі”: агульнадыяцэзіяльная сустрэча “Маргарытак” адбылася ў Удзеле

**Час пілігрымак і адпачынку ўжо скончыўся, распачалася восень – чароўная пара года. Яна нікога не пакідае абыякавым, вабіць сваёй разнастайнасцю і багатай палітрай колераў. Дрэвы ўражваюць сваім залатым убраннем, карычневыя і чырвоныя адценні лісця радуюць вока. А маргарыткі.... Гэта маленькія палявыя кветачкі-рамонкі, якія азначаюць самаахвярнасць, прастату і адзінства. Менавіта таму ў маленькім Беларускім Непакалянаве, што на Глыбоччыне, дзе самаахвярна працуюць айцы-францішкане, у прыгожы сонечны вераснёўскі дзень сабраліся малітоўныя “кветкі”.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

3 верасня ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле прайшла Трэцяя агульнадыяцэзіяльная сустрэча ўдзельнікаў апостальскага руху “Маргарытка”. “Маргарытак” у Віцебскай дыяцэзіі ёсць шмат. На спатканне прыбыла толькі некаторая іх частка – з Глыбокага, Шаркаўшчыны, Паставаў, Дзеркаўшчыны і Удзела.

Спатканне распачалося адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту і ружанцовай малітвай з разважаннямі ў першую суботу месяца. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ардынарый шчыра падзякаваў прысутным за пакліканне да такой неабходнай малітвы, якая сваёй моцай праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі падтрымлівае святароў.

Падчас гамілії пастыр дыяцэзіі разважаў пра пакору і паслухмянасць Божай волі. Моц ружанцовай малітвы трывае ў паслухмянасці Богу, і варта заўсёды давяраць усе свае справы Усемагутнаму. Біскуп Алег прыгадаў постаці св. Францішка, св. Айца Піа і засяродзіў увагу: “Колькі ёсць у гісторыі святых айцоў, мучанікаў... А чаму яны святыя? Бо цалкам аддаваліся Богу, былі паслухмяныя і пакорныя Яму”. Таксама іерарх нагадаў пра галоўны прынцып, якому вучыць сёння Езус – прынцып Любові. “Любоў да сябе – гэта абсалютна не эгаізм”, – падкрэсліў біскуп. – Любоў ставіць вымаганні перад намі і перад іншым чалавекам, каб прымаць яго такім, які ён ёсць. Мы павінны любіць бліжняга свайго, як самога сябе”.

На заканчэнне Імшы пробашч Удзелаўскай парафіі а. Яраслаў Банасяк заахвоціў прысутных далучыцца да малітвы прысвячэння сябе Беззаганнаму Сэрцу Марыі, якую ўсе разам зачыталі. Святар запрасіў прыязджаць менавіта ў Удзела кожную першую суботу месяца а 10-й гадзіне, каб аднаўляць гэтае прысвячэнне.

Пасля малітоўнай часткі ўсе чальцы руху змаглі падсілкавацца і паразмаўляць, наведаць музей св. Максіміліяна Кольбэ і “Батлейку”. Затым, зноў сабраўшыся ў святыні, праслухалі канферэнцыю а. Яраслава пра прысвячэнне сябе Маці Божай. Святар асабліва заклікаў удзельнікаў “Маргарытак” дапамагаць святарам, каб пакліканыя да Божай службы былі паслухмяныя Марыі і Езусу.

“Што такое прысвячэнне? Гэта свядомы і добраахвотны акт маёй волі, праз якую аддаю сваю волю Марыі”, – сказаў а. Яраслаў і прыгадаў наказ св. Максімільяна Марыя Кольбэ: “Будзь алоўкам у руцэ Марыі, каб Яна пісала тваё жыццё”.

Чаму мы павінны прысвячаць сябе Маці Божай? Бо праз Яе самая кароткая дарога да збаўлення.




## На кастрычнік прыпадаюць імяніны, дні нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**2 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*;

**4 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, імяніны адзначаюць **кс. прэлат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**7 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**8 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Наваполацк)*, **а. Кляменцій Верт SJ** *(Віцебск)*;

**11 кастрычніка** – імяніны адзначае **кс. Аляксандр Півавар** *(Бешанковічы)*; **а. Аляксандр Астраушка OFMCap** *(Докшыцы)*;

**12 кастрычніка** - гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Алег Зямчонак** *(Глыбокае)*; **кс. Уладзіслаў Шаркові**ч;

**13 кастрычніка** – імяніны адзначаюць **кс. канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*;

**18 кастрычніка** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас-Беларусь;

**22 кастрычніка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; імяніны адзначае **кс. Алег Хмылко** *(Полацк)*;

**28 кастрычніка** – імяніны адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMcap** *(Докшыцы, Бягомль)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Тэст на “Д”

**Дарагія чытачы! У сённяшнім нумары прапануем Вам шэраг пытанняў з варыянтамі адказаў, якія пачынаюцца на літару “Д” (“Дз”)**

**1 Тэрытарыяльна-адміністратыўная адзінка Касцёла, якая складаецца з некалькіх парафій гэта:**



**А.** Дыяцэзія;
**Б.** Дэканат;
**В.** Дэлегатура.

**2 У 14 раздзеле Евангелля ад Яна ёсць наступнае выказванне Езуса: “Я — .... праўда, і жыццё.” Якое слова неабходна ўставіць замест шматкроп’я?**



**А.** Дарога;
**Б.** Дух;
**В.** Дабро.

**3 Дзесяць запаведзяў, якія Майсей атрымаў ад Бога на гары Сінай?**




**А.** Дэкалог;
**Б.** Дзесятнік;
**В.** Дзесяціна.

**4 Як называецца асноватворны прынцып веравучэння, праўдзівасць якога не аспрэчваецца?**



**А.** Дагмат;
**Б.** Дактрына;
**В.** Дэкрэт.

**5 Імя святога, які памёр, яшчэ не маючы 15-ці гадоў.**



**А.** Дам’ян.
**Б.** Дамас;
**В.** Дамінік Савіа.

**6 Назва беларускага культурна-рэлігійнага часопіса, заснаванага ордэнам айцоў-вербістаў мае назву...**



**А.** “Дыялог”;
**Б.** “Дабро”;
**В.** “Давер”.

**7 Айцец Язэп Германовіч, вядомы як паэт Вінцук Адважны, пераклаў адну з малітваў святога Кірыла Тураўскага. Вядомы знаўца беларускай музыкі Гай Пікарда падабраў да яе мелодыю. Так паўстала вядомая песня пад назвай...**



**А.** “Да ружанцовай Маці Божай”
**Б.** “Дай, добры Божа...”
**В.** "Добры Пане".

**8 Адна з парафій, дзе нясуць сваё служэнне айцы-салезіяне.**



*Таварыства св. Францішка Сальскага*
*САЛЕЗІЯНЕ КСЯНДЗА БОСКО*
*(Salesians of Don Bosco - SDB)*

**А.** Дзятлава;
**Б.** Дзяржынск;
**В.** Друя.

**9 Як называецца адміністрацыйны дакумент, які змяшчае распараджэнне якой-небудзь касцельнай установы ці кіраўніка?**



**А.** Дазвол;
**Б.** Дэкрэт;
**В.** Даклад.

**10 Адзін з пладоў Святога Духа...**



**А.** Доўгацярплівасць;
**Б.** Дабравольнасць;
**В.** Дбайнасць.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Новы касцёл асвечаны ў Сянне

**Асвячэнне новага касцёла ў Сянне адбылося 17 верасня. Абрад здзейсніў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

■ **Лаліта Арлоўская**, *тэкст*; **Васіль Мядзюха**, *фота*



Парафія ў Сянне была адноўленая яшчэ на пачатку 2000-х гадоў. І з таго часу рабіліся намаганні пабудаваць касцёл. Але доўга тут існавала толькі драўляная капліца. Цікава, што новы касцёл з'яўляецца зменшанай копіяй святыні, якая калісьці стаяла на тым самым месцы.

Так выказаўся наконт праекту пробашч парафіі а. Міхал Ермашкевіч OP: "Адразу было прынятае рашэнне пабудаваць тут нешта падобнае да таго, што было раней. Бо казалі: нічога прыгажэйшага за папярэдні касцёл тут быць не можа!

У 2015 годзе пачаліся працы па падрыхтоўцы будаўніцтва, і толькі праз чатыры гады ўдалося пачаць будоўлю. Былі розныя цяжкасці: бюракратычныя, фінансавыя. Атрымалася, што мы амаль за чатыры месяцы ўзвялі сам будынак, а потым пачаліся доўгія аброблыя працы", – кажа айцец Міхал.

Першая Імша ў будынку новага касцёла адбылася на пастэрку ў 2020 годзе, але працу тады яшчэ не скончылі. Варта адзначыць, што дату асвячэння касцёла абралі не выпадкова. Пробашч парафіі Святой Тройцы тлумачыць так: "Гэта дата – аднаўленне гістарычнай справядлівасці, кампенсацыя. Бо 17 верасня 1962 года стары касцёл быў знішчаны камуністамі. А ў жніўні 1772 года тут закончылі будаваць першы касцёл, але мы не паспелі скончыць працу да жніўня. Таму гэта яшчэ і амаль юбілей: 250 гадоў ад будаўніцтва першага касцёла і 60 гадоў – з часу яго знішчэння атэістамі".

Падзялілася сваім уражаннем парафіянка Марыя: "Нарэшце мы маем пабудаваны новы касцёл, яшчэ і такі прыгожы! Гэта вельмі важны дзень для нас, бо цяпер маем свою святыню ў Сянне. Наш пробашч а. Міхал вельмі многа намаганняў прыклаў для таго, каб пабудаваць яе, аддаў гэтай справе ўсе свае сілы. Мы вельмі ўдзячныя яму за гэта!"

На ўрачыстасць асвячэння сабраліся шматлікія госці. Сярод іх былі людзі, якія дапамагалі ў будаўніцтве касцёла і ў арганізацыі свята. Прысутнічаў і папярэдні пробашч кс. Уладзімір Заянчкоўскі, дэкан Лепельскі.

Урачыстасць пачалася з працэсіі пад спевы хору парафіі святой Барбары з Віцебска. Затым акрапленнем святой вадой сцен і алтара пачаўся непасрэдна абрад асвячэння.

Падчас казання біскуп Алег звярнуў увагу на гістарычнасць і сімвалізм падзеі, сведкамі якой мы сталі сёння. Пра што казаў сам Езус, гаворачы, што брамы пякельныя не пераможуць Касцёл, пабудаваны на падмурку апосталаў. А Бог знішчае таго, хто знішчае Яго святыню. Такім чынам і сістэма, каторая руйнавала святыні насуперак усялякай логіцы, была зруйнаваная сама. Яго Эксцэленцыя таксама адзначыў, што сёння мы бачылі праз асвячэнне гэтага касцёла нашую прыналежнасць да гісторыі – дадзенай нам Богам спадчыны. Але, дадаў біскуп, Касцёл з'яўляецца супольнасцю тых, хто бачыць спаўненне ў Езусе Хрысце Божага абяцання. Тых, хто і далей жыве ў надзеі на яго будучае спаўненне. Абяцанне ажыўляе наш шлях чакання яго спаўнення. Бо вера – не музейны экспанат, вера заўсёды жывая, як жывым і вечным застаецца Бог. А будынак касцёла – гэта знак таго, што жыве ў душы чалавека.

Абрад асвячэння прадоўжыўся Літаніяй да ўсіх святых, пасля якой адбылося намашчэнне святым алеем алтара і сцен. Таксама адбылося акаджэнне алтара, самога памяшкання касцёла і вернікаў. Запалілі свечкі на алтары і на сценах касцёла. Гэтая частка абраду нагадвае вернікам пра свята Божага Слова, якое цяпер заўсёды будзе гучаць і запальваць сваім зззяннем сэрцы людзей. А завяршыўся абрад накрыццём белым абрусам да таго моманту агаленага алтара.



Пасля літургіі пробашч і вернікі парафіі Святой Тройцы падзякавалі Яго Эксцэленцыі біскупу Алегу Буткевічу за асвячэнне храма, а таксама ўсім, хто дапамагаў фінансава, малітоўна і праз сваю працу. Асаблівую падзяку скіравалі Віктару Воранаву, які непасрэдна выконваў будаўнічыя працы.

Затым канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч зачытаў дэкрэт біскупа аб асвячэнні касцёла ў гонар Святой Тройцы. Пазней дакумент падпісалі біскуп Алег Буткевіч, ксёндз Віктар Місевіч і пробашч парафіі айцец Міхал Ярмашкевіч.

Варта адзначыць, што непасрэдна пасля асвячэння касцёла маладая пара вернікаў з Сянна прыняла сакрамант шлюбу. Маладыя людзі ўрачыста склалі прысягі сужэнскай вернасці ў новаасвечаным касцёле. Пробашч айцец Міхал Ермашкевіч благаславіў іх сужэнскі саюз.




**Фотаздымак старога касцёла**

# Новы каталіцкі храм асвяцілі ў Гродзенскай дыяцэзіі

**11 верасня біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч здзейсніў асвячэнне новага касцёла Святой Сям'і ў Верцялішках (дэканат Гродна-Усход), паведамляе *grodnensis.by*.**

Парафія ў аграгарадку была заснаваная ў 2006 г. па ініцыятыве мясцовых католікаў, якія хацелі мець уласную святыню. Будаўніцтва касцёла пачалося ў 2007 г.

На ўрачыстасці асвячэння сабраліся многія парафіяне і госці. Прысутнічалі святары, сярод якіх былі таксама аднакурснікі пробашча парафіі кс. Яўгена Барысюка, і сёстры Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі).

На пачатку ўрачыстасці біскупа прывіталі каля дзвярэй святыні. Вернікі сімвалічна перадалі іерарху ключы ад касцёла, якімі ён тройчы ўдарыў па дзвярах. Затым прысутныя ўвайшлі ў працэсіі ў касцёл, дзе адбыўся абрад асвячэння: акрапленне вадой сцен і алтара, малітва Літаніяй да ўсіх святых, намашчэнне святым алеем алтара і сцен, акаджэнне алтара, унутранага памяшкання і вернікаў, накрыццё белым абрусам алтара. Пасля распачалася найважнейшая частка абраду асвячэння – святая Імша.

У гаміліі рэктар Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне кс. канонік Віталь Вайцяхоўскі казаў пра значэнне касцёла ў жыцці чалавека. Па словах святара, новы касцёл быў пабудаваны "не як помнік гісторыі, а для таго, каб жыць", і павінен стаць сэрцам парафіі. Святар адзначыў, што з асвячэннем касцёла, узведзенага дзякуючы ахвярнасці парафіян і людзей добрай волі, "супольнасць будуе будучыню".

"Ад кожнага з вас залежыць спадчына, якую вы перадасце сваім нашчадкам", – падкрэсліў кс. Віталь, дадаўшы, што, акрамя матэрыяльнай спадчыны, вельмі важна перадаць духоўную. У канцы гаміліі святар пажадаў, каб гэты касцёл стаў "месцам жыцця".

На заканчэнне Імшы біскуп Кашкевіч падкрэсліў, што асвячэнне касцёла – не толькі знешні акт, які завяршае складаныя працы па яго будаўніцтве, але і вельмі важны літургічны чын, праз які ўзведзены вернікамі будынак публічна і ўрачыста прызнаечаецца быць святыняй Бога, каб у ёй збіралася мясцовая супольнасць хрысціян.

"Кожная святыня – гэта знак таго, што ў дадзенай мясцовасці жывуць вернікі, католікі і вызнаўцы Езуса Хрыста. Гэта знак таго, што насенне Евангелля, пасеянае стагоддзямі таму на нашых землях і ў сэрцах нашых продкаў, усё яшчэ жыве, працягвае расці і дае багатыя ўраджаі", – сказаў іерарх.

Па яго словах, кожная святыня – таксама сведчанне таго, што тыя, хто пабудаваў яе, жывуць не толькі хлебам, што духоўныя каштоўнасці для іх важныя, што паводле старажытнай традыцыі, як рабілі продкі, яны здольныя ахвяраваць Богу ўсё найлепшае і найпрыгажэйшае.

Іерарх падзякаваў пробашчу і вернікам за працу па ўзвядзенні святыні, што з'яўляецца сведчаннем іх любові да Хрыста і Яго Касцёла, усім, хто розным чынам падтрымліваў будаўніцтва касцёла, які застанецца прыгожай памяццю для будучых пакаленняў.

Іерарх звярнуўся да вернікаў з просьбай: "Збірайцеся ў гэтым касцёле ў нядзелі і святы, у звычайныя дні і вялікія ўрачыстасці, каб тут заўсёды прысутнічаў Бог са сваім словам, з дарам сваёй ласкі, са святымі сакрамантамі, з бязмежнасцю сваёй любові і міласэрнасці".

Біскуп пажадаў, каб гэтая святыня нагадвала ўсім, каго належыць слухаць у жыцці, да каго скіроўваць просьбы, ад каго чакаць дапамогі і жаданых дароў.



# История Кати Б.

**Меня зовут Катерина, и я выздоровевшая алкоголичка. Я являюсь членом АА с 02.09.2017. С этого дня моя жизнь неразрывно связана с Содружеством.**

Годы пьянства привели меня на порог группы АА в состоянии отчаяния и безнадежности. Я не находила в своем окружении тепла, участия и понимания, в которых так нуждалась. Я была одинока. Я готова была умереть.

В АА мне протянули руку помощи, и эта помощь заключалась в самом главном, что есть в Содружестве: меня не только познакомили с программой 12 шагов анонимных алкоголиков, но и помогли преодолеть этот нелегкий путь. Действия, которые я сделала, привели меня к новой свободе и новому счастью. Кромешный ад, в котором я жила, перестал существовать. У меня появилась новая реальность, новая духовная основа, смысл моей жизни! Все мои проблемы были решены! Оглядываясь назад, на проделанный путь, мне иногда сложно поверить в то, что такие чудеса возможны. Но это действительно произошло с каждым из нас: с одними раньше, с другими позже. Со всеми, кто приложил усилия.

**Что для меня АА?**

АА – это место, где впервые возникло понимание того, кто я. Именно на своем первом собрании группы АА я назвала себя алкоголиком. Случилось это благодаря идентификации – ощущению необъяснимого сходства, родства, можно сказать, с другими такими же алкоголиками после услышанных от них историй их пьянства.

АА – место, где звучит весть АА о выздоровлении, место, где впервые я поняла, что выздоровление от хронического алкоголизма возможно посредством 12 Шагов АА. Место, где каждый, кто прошел этот путь, делится с теми, кому он еще предстоит, своим опытом, силой, надеждой. И эти люди готовы помочь другому такому же алкоголику.

АА – место, где можно встретить единомышленников и новых друзей, чья помощь будет неоценима на этом простом, но нелегком пути.

АА – это, прежде всего жизни, спасенные жизни, казалось бы, безнадежных алкоголиков. АА – помощь и участие, терпение и понимание, рука дружбы, протянутая мне в самую горькую минуту моей жизни. АА и есть моя новая жизнь.

И, наконец, самое главное: АА – место встречи выздоровевшего алкоголика с тем, кто еще страдает. Место, где каждый отчаявшийся обретает надежду. Где я могу быть полезна другой алкоголичке. Где день за днем случается чудо бескорыстного служения, бесконечного альтруизма, настоящей любви, которая не ждет ничего взамен.

Эти строки написаны в день моей третьей годовщины трезвости. Мои глаза наполнены слезами счастья, а сердце – искренней благодарностью. Благодарностью Богу за каждый прожитый день и за счастье, что я обрела в АА.



# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны* ***ксёндз Сяргей!*** *Шчыра віншуем Вас з імянінамі, якія Вы адзначалі 9 верасня, і жадаем Вам бадзёрасці і аптымізму, моцнага здароўя, бязмежнай міласэрнасці і плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння, шмат Божых ласкаў на кожны дзень Вашага жыцця! Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, заўсёды натхняе і ўзмацняе Вас, Маці Божая няхай ахінае сваёй любоўю і апекай, а Езус Хрыстус блаславіць кожны Ваш дзень!*

*Дзякуем Вам за клопат і чуласць, за добрыя справы на карысць нам, вернікам, і нашай парафіі!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

## *Хвала Хрысту!*



*Паважаны* ***ксёндз-пробашч Славамір Самковіч!***

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды Дня нараджэння (29 верасня) і гадавіны святарскага пасвячэння (5 лістапада)! Няхай Бог адорыць Вас ласкай мудрасці, веры, надзеі і любові, а Маці Божая хай дапамагае быць верным сведкам Хрыстовага вучэння і атуляе сваёй апекай у цяжкія моманты! Жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці! Няхай заўсёды здзяйсняюцца Вашы мары і задумы! Зычым Вам і надалей багатага плёну ў святарскім служэнні.*

***Вернікі парафіі Божай Міласэрнасці (аг. Пагошча, Браслаўскі раён)***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Вернікі з Лужкоўскай парафіі ад шчырага сэрца віншуюць свайго пробашча* ***ксяндза Міхала Татарэнку****, які адпрацаваў у нас дзесяць гадоў, з днём імянінаў. Мы памятаем пра Вас у сваіх малітвах і на новым месцы працы жадаем цярплівасці і Божага блаславення, усіх Дароў Святога Духа, ласкі і дабрыні вернікаў, іх падтрымкі ва ўсіх справах! Няхай Ваш Анёл-ахоўнік, Арханёл Міхал, падтрымлівае Вас і аберагае ад усіх бедаў і ўсяго злога!*

*З імянінамі Вас, шаноўны ксёндз Міхал!*

***З удзячнасцю, вернікі з Лужкоў***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*30 верасня ў нашага* ***ксяндза Дзмітрыя Дубовіка*** *– Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Дзмітрый! Віншуем Вас з гэтай нагоды! Шчыра жадаем Вам Божай дапамогі і блаславення ва ўсіх справах і пачынаннях, моцнага здароўя, душэўнага супакою, цярплівасці! Зерне, якое засеяна Вамі на Божай ніве, няхай прыносіць добры плён!*

***З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі будслаўскага касцёла НПМ з в. Яцковічы***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Шаноўны* ***ксёндз-пробашч Аляксей Ляшко!*** *Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння (21 верасня)! З гэтай нагоды жадаем, каб Найвышэйшы Бог адарыў Вас ласкай мудрасці і моцным здароўем, а ў сэрцы няхай заўсёды госціць спакой і дабрыня! Няхай Пан Бог дапамагае Вам у душпастырскіх клопатах, блаславяе, напаўняе энергіяй, сілай і радасцю, моцна трымае Вас за руку і абараняе ў складаных жыццёвых сітуацыях! Няхай Дух Святы натхняе на доўгую і плённую святарскую службу, а Маці Божая хай апякуецца ва ўсіх Вашых справах, моліцца за Вас перад Божым тронам, прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Дзякуем Пану Богу, што паслаў Вас абвяшчаць нам Божае слова, сеяць дабро і несці супакой у нашыя сэрцы! Сто гадоў Вам, паважаны наш ойча!*

*Дзякуем Вашай маме за сына-святара!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Паважаны* ***ойча Тадэвуш Кавальскі!*** *Ад усяго сэрца віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (19 верасня) і жадаем Вам, каб Пан Бог і надалей надзяляў Вас фізічнымі і духоўнымі сіламі для ахвярнага святарскага служэння, а Маці Божая атуляла Вас сваёю чулаю апекай і выпрошвала ў Свайго Сына ўсе неабходныя Вам ласкі! Няхай заўсёды побач з Вамі прысутнічаюць Анёл-ахоўнік і св. Юда Тадэвуш, каб увесь час дапамагаць і берагчы Вас!*

*Жадаем Вам і Вашым родным моцнага здароўя і даўгалецця, цярпення, вытрымкі, шчодрых дароў Духа Святога, багатага плёну на Божай ніве Вашага нялёгкага служэння!*

*Вялікі дзякуй таксама ўсім святарам, братам і сёстрам з касцёла Святой Тройцы ў Докшыцах за дапамогу ў Вашай працы!*

***З малітвай, любоўю і павагай, усе парафіяне касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі***

## *Хвала Хрысту!*

*З вялікай радасцю, адкрытымі сэрцамі і шчырымі пачуццямі віншуем нашага былога* ***пробашча Юрыя Жаўнярovіча*** *з 15-й гадавінай святарскага пасвячэння!*

*Жадаем, шаноўны ксёндз Юрый, каб Вашае святарскае сэрца заўсёды адкрывалася на неабсяжную любоў, каб ніколі не пагас апостальскі запал, каб хапіла сілаў на рэалізацыю высакародных планаў! Няхай побач з Вамі заўсёды будуць паплечнікі з гарачымі сэрцамі, якія дапамогуць прывесці бліжніх да Хрыста! Няхай Добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і супакоем, а Маці Божая апякуецца ў кожнае імгненне жыцця!*

*Жадаем Вам, дарагі ойча, і Вашым родным духоўных і фізічных сіл, моцнага здароўя і дзякуем за добрасумленную працу разам з Вамі ў нашым касцёле!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла св. Апосталаў Пятра і Паўла ў Дрысвятах***

# Што рабіць са старымі абразамі?



**“Падкажыце, калі ласка, што зрабіць са старымі абразамі? Сабралася іх шмат, усе павесіць немагчыма”.**

На пытанне адказвае **а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Ужыцці верніка важнае месца займаюць матэрыяльныя знакі, якія накіроўваюць да Пана Бога. Тут маюцца на ўвазе розныя прадметы рэлігійнага культу, што дапамагаюць лепш дасягнуць засяроджанасці, маліцца, сведчаць аб прыналежнасці да рэлігійнай супольнасці. Імі з’яўляюцца, напрыклад, Святое Пісанне, абразы, выявы святых, ружанцы, малітоўнікі, шкаплеры, свечкі, крыжыкі, медалікі, пярсцёнкі, пальмавыя галінкі, старонкі з рознымі малітвамі і інш.

Асаблівае месца ў народнай пабожнасці нашай Радзімы займаюць абразы, якія часта называюць святымі і якія змяшчаюцца навідавоку і перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Многія з іх маюць не толькі рэлігійную, але і мастацкую каштоўнасць. Абразы і іншыя культавыя прадметы асвячаюцца, дзякуючы чаму перастаюць быць звычайнымі рэчамі і набываюць новае значэнне – указваюць на Бога, прысутнага ў свеце і ў жыцці хрысціяніна. Менавіта таму да асвечаных рэчаў трэба ставіцца з пашанай, іх нельга прадаваць, выкідваць, класці дзе папала ці спецыяльна знішчаць. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла ў артыкуле, прысвечаным першай запаведзі, кажучы пра бязбожнасць, перасцерагае перад грахом блюзнерства, што заключаецца ў “прафанацыі сакрамантаў і іншых літургічных дзеянняў ці нягодным стаўленні да іх, як і да асобаў, рэчаў і месцаў, прысвечаных Богу” (ККК 2120).

Вядома, асвечаныя рэчы таксама старэюць, псуюцца. Ёсць і такія сітуацыі, як кажа аўтар пытання, калі проста фізічна дастаткова цяжка захаваць усё, што засталося ад продкаў. Асвечаныя рэчы нельга кінуць у кошык, а потым у кантэйнер на сметніку. Калі яны былі неяк пашкоджаныя і іх нельга абнавіць, трэба іх спаліць, а зробленыя з негаручага матэрыялу трэба разабраць і вывесці з ужывання іншым чынам – напрыклад, закапаць у зямлю (асабіста я лічу прыдатным месцам для гэтага могілкі, дзе пахаваныя нашы блізкія). Падобным чынам можна зрабіць з рэчамі, якія засталіся ад нашых продкаў. Калі мы не будзем імі карыстацца, можна спачатку спытаць у родных і знаёмых, ці хацелі б яны іх узяць, а калі гэтыя рэчы будуць сапраўды непатрэбныя, то спаліць іх ці іншым годным спосабам вывесці з ужывання. Трэба таксама памятаць, што асвечаныя рэчы нельга прадаваць, у тым ліку праз інтэрнэт, ці аддаваць у актыкварную краму. Дапушчальнай мне здаецца перадача каштоўных рэлігійных прадметаў у парафіяльны ці іншы музей.

Хачу дадаць, што абразы і іншыя культавыя прадметы мы набываем ці атрымліваем для таго, каб яны дапамагалі нам у адносінах з Панам Богам. Ні ў якім выпадку яны не павінны стаць толькі формай упрыгожання памяшкання ці чалавека. Варта памятаць і пра тое, што не ўсе рэлігійныя прадметы маюць мастацкую каштоўнасць, бываюць і безгустоўныя, якія сваёй формай і выглядам, хутчэй, абражаюць Бога. У гэтай сферы патрабуецца адчувальнасць як мастака, вытворцы, прадаўца, так і пакупніка.

*grodnensis.by*

# Крыж: параза ці перамога?

**У верасні адзначаецца свята Узвышэння Святога Крыжа. Мы святкуем момант, калі быў знойдзены крыж, на якім памёр дзеля нашага збаўлення наш Пан Езус Хрыстус. На жаль, мы настолькі прывыкаем да крыжа ў нашым штодзённым жыцці, што забываемся пра яго сакральны сэнс. Уплывае гэта таксама на тое, як самі робім знак крыжа падчас малітвы.**

■ **Айцец Павел Мажэйка, дамініканін** *(Віцебск)*



Крыж, на якім памёр Езус, часта называюць жыватворным. Але як нешта, што было прыладай смерці для нашага Збаўцы, можа стацца тым, што дадае сілы і надзеі? Каб гэта зразумець, трэба ўмець прыняць крыж і цярпенне з верай. У сучасным свеце мы не знойдзем шмат прыкладаў таго, як хтосьці дзеліцца асабістым цярпеннем у сацыяльных сетках. Такая тэма непапулярная. А калі яна і з'яўляецца ў лічбавай прасторы, то выклікае буру эмоцый, нянавісці і прагу помсты таму, хто ёсць прычынай цярпення. Менавіта тое, як Езус прымае крыж, нясе яго і паміраe, вучыць нас правільна ставіцца да свайго ўласнага і да цярпення іншых. Больш за гэта, наш Боскі Настаўнік запрашае не толькі глядзець на Яго, але і перажываць разам з Ім Крыжовую дарогу: "Хто не нясе крыжа свайго, а ідзе за Мною, не можа быць Маім вучнем" (Лк 14, 27)

**Як застацца вучнем Хрыста, беручы свой крыж з любоўю і верна ідучы за Ім?**

Прапаную звярнуць увагу на некалькі спосабаў, якія могуць дапамагчы нам у гэтым.

**Добраахвотнае прыманне цяжкасцяў, якія нас сустракаюць.** Лёгка ёсць верыць і падтрымліваць у веры іншых, калі мы сябе добра адчуваем і ў нас у жыцці ўсё добра складваецца. Але як быць у выпадку выпрабаванняў, якія надыходзяць, калі мы сутыкаемся з раздзяленнем, абяцаным Хрыстом, дзе "пяцёра ў адным доме будуць падзеленыя, трое супраць дваіх і двое супраць траіх"(Лк 12, 52)? Альбо перажываем цяжкую хваробу сваю ці кагосьці з блізкіх…

Парадаксальна, што вера ў Хрыста дае нам магчымасць прыняць такія пакуты з пакорай, не шукаючы вінаватых і не пытаючыся пра іх прычыну. Добрым узорам з'яўляюцца дзеці з Фацімы, якіх Маці Божая просіць маліцца і пакутаваць у інтэнцыі навяртання грэшнікаў. Яны з дзіцячай прастатою і даверам прымаюць гэту просьбу. А як мужна і станоўча яны перажываюць момант, калі апынуліся ў вязніцы, праходзячы праз застрашванні і ўгаворы дарослых адмовіцца ад сведчання пра з'яўленне Маці Божай! Такое перажыванне выпрабаванняў у духу прабачэння за свае ўласныя грахі і грахі іншых замест таго, каб ператварыцца ў здарэнне, якое вычэрпвае нашыя сілы, становіцца чымсьці такім, што дапамагае нашаму навяртанню і паглыбленню веры, а іншым дадае адвагі ў імкненні да дабра і праўды, нягледзячы на цяжкасці і перашкоды.

**Перажыванне пятніцы ў духу пакуты.**

**Хоць мы добра ведаем, што пятніца – посны дзень, але часта забываемся пра першасны сэнс пятніцы як дня смерці нашага Збаўцы.**

Памятаем, што мы не павінны есці ў гэты дзень мяса, але без сувязі гэтага дзеяння з удзячнасцю за ахвяру Езуса для нас застаецца яно прыкрым абавязкам, які чамусьці прыдумалі сабе каталікі. Мы трымаем пост і вырачэнні звычайна ў перыяд Вялікага Посту, але чаму кожная пятніца на працягу года, калі не прыпадае ў гэты дзень урачыстасць, не можа стаць днём практыкавання стрыманасці і панавання над сваімі прагненнямі? Нават звычайнае абмежаванне ў пятніцу карыстання смартфонам можа дапамагчы ўмацаваць нашую волю і праверыць, наколькі мы залежныя ад гэтага гаджэту. Прычым мэтай з'яўляецца не самамучэнне, а імкненне быць больш свабодным і адказным для Бога.

**Набажэнствы і малітвы, звязаныя з разважаннем над Мукай Пана.** Усім вядомая папулярнасць у касцёле набажэнства Крыжовага шляху ў часе Вялікага Посту. Але гэта не значыць, што мы не можам карыстацца ім на працягу літургічнага году. Пра святога айца Яна Паўла II вядома, што ён любіў і адпраўляў набажэнства Крыжовага шляху амаль кожную пятніцу. Варта прыпомніць шмат іншых набажэнстваў і малітваў, прысвечаных цярпенням і смерці Хрыста: песні жальбы, Літанія да сямі балесцяў Найсвяцейшай Панны Марыі, вяночак да Крыві Хрыста. Вялікая традыцыя дамініканскай духоўнасці таксама захавала малітвы святых, якія разважалі і ўшаноўвалі Муку Хрыста. Сярод іх варта вылучыць кантык святой Кацярыны дэ Рычы, дамініканскай манахіні з XVI стагоддзя. Складаецца ён з цытатаў са Святога Пісання, каторыя дапамагаюць медытацыйна перажыць момант цярпення і смерці Пана Езуса на Крыжы. Практыкаванне гэтых малітваў і набажэнстваў можа дапамагчы нам глыбей зразумець, якой вялікай цаной мы былі выкупленыя з няволі граху, а праз гэта спрабаваць адказаць Богу на Яго бязмежную любоў. Падтрымлівае ў нас названую цноту спачуванне і неабыякавасць на цярпенне іншых, якія ўвасабляюцца ў малітве і канкрэтных дзеяннях, каб зменшыць наступствы зла ў свеце. А як жа патрэбная такая рыса нам, тым, хто можа, папіваючы каву, чытаць, што недзе адбываюцца ваенныя дзеянні, альбо глядзець відэа, як кагосьці збівае машына…

Калі святы Банавентура запытаў неяк у святога Тамаша Аквінскага, адкуль ён бярэ ўсю гэтую прыгажосць, якую іншыя людзі адкрываюць у яго творах, святы адказаў, паказваючы на крыж: "Вось мая кніга". Варта, памятаючы пра нашае пакліканне да святасці, таксама і нам часцей звяртацца да гэтай кнігі ў сваім асабістым жыцці.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Навошта Бог даў чалавеку цела?

**“Чаму Адаму даў Бог цела? (Целу трэба есці, спакуса ад змея, першародны грэх на ўсіх, такія цяжкія цярпенні за грахі ўсіх людзей, адкупленне, вялікая Любоў, будучае ўваскрашэнне цела). Дзеля чаго першаму чалавеку было дадзена цела? Моніка”.**

– Дарагая Моніка! Пытанне Вашае датычыць разумення “цела” ў біблійнай канцэпцыі, а таму разгледзім, які падыход да гэтага паняцця прадстаўляе Святое Пісанне. Распачнём з ключавога слова для абазначэння цела ў Новым Запавеце. Гэта грэц. *sōma* (σωμα).

### Сэнс слова “цела” ў Старым Запавеце

Але каб зразумець багатую палітру семантыкі гэтага азначэння, варта заглянуць у пачатак Бібліі. Стары Запавет кажа пра чалавека ў тэрмінах “цела” і “душа”. У ім некалькі разоў выкарыстоўваецца тэрмін *gĕwiyyâ* (“цела”), калі маецца на ўвазе цела анёла (бесцялесная істота!), дзе наша разуменне “цела” было б недастатковым (напр., Эзх 1,11.23; Дан 10,6); таксама гэты тэрмін абазначае “раба” ў сэнсе “чалавечай сілы” (напр., Быц 47,18; Нм 9,37); абазначае таксама “людскі труп” (Суд 14,8.9; 1 Сам 31,10.12; Нвм 3,3; Пс 110,6).

Увогуле Стары Запавет праяўляе мала цікавасці да адрознення “цела” як адной з “частак” (побач з душой) чалавека. Першы Запавет кажа пра чалавечае “цела” (у адрозненне ад чалавека ў цэлым) толькі тады, калі апісвае яго як працаўніка ў распараджэнні свайго гаспадара або як проста мёртвую субстанцыю, якую трэба пахаваць. Што такое чалавек, паводле першай часткі Бібліі, можна зразумець толькі цэласна. Чалавек не мае душы і цела, але адначасова з’яўляецца і душой, і целам, поўным жыцця і патэнцыйнай дзейнасці. Але разам з тым яму пагражаюць хвароба, прамінальнасць і смерць. Душа без цела падобная да прывіду без сапраўднага існавання, тады як цела без душы – гэта ўсяго толькі труп (ці, максімум, рабочая сіла раба). Такім чынам, смерць не разумеецца ні як аддзяленне боскай душы ад смяротнага цела, ні як канчатковае спаўненне чалавека, ні як натуральная біялагічная мэта жыцця. Ворагам чалавека застаецца смерць, мацнейшым за якую з’яўляецца толькі сам Бог: “Цела маё і сэрца маё аслабне, але Бог – скала майго сэрца і мая доля навекі” (Пс 73,26). У арамейскай мове, мове Езуса, слова *gĕšēm* (“цела”) выступае ў прарока Данііла ў значэнні “труп” (4,30; 7,11) і ў сэнсе чалавека, які падвяргаецца ўздзеянню агню або вады (3,27–28; 5,21).

### Сэнс слова “цела” ў старажытнагрэцкім свеце

Зусім адрозным будзе ўспрыманне цела ў грэцкім (эліністычным) свеце. У Гамера *sōma*, “цела”, – перш за ўсё “труп”, гэта значыць, нешта адрознае ад таго, хто гаворыць, аб’ект, які можна бачыць і які знаходзіцца па-за назіральнікам. Таксама гэтае слова абазначае жывое цела чалавека або жывёлы, а таксама фізічнае (напрыклад, нябеснае) цела. Названы тэрмін таксама можа азначаць адзінства, напрыклад, *ekklēsia* (“сход”), той самы тэрмін, які абазначае “касцёл” у Новым Запавеце. Дзве краіны, якія аб’ядналіся пасля вайны, цяпер “адно цела” (так у Плутарха). Усе часткі сусвету ўтвараюць такое адзінства, таму можна казаць пра космас як пра (боскае) цела.

Першапачатковае выкарыстанне sōma ў значэнні “труп” ілюструе адну лінію развіцця, у якой цела разглядаецца проста як мёртвая матэрыя (як труп або, напр., зорка), як свайго кшталту аб’ект, каторы знаходзіцца ў распараджэнні яго ўладальніка (напр., раб). Гэта прывяло да погляду Платона на цела як на “грабніцу” (*sōma-sēma*), “турму” або “вустрычную ракавіну”. Такім чынам, **смерць у элiнiстычным свеце з яго канцэпцыяй цела – гэта вызваленне душы.**

Арыстоцелем дадзенае паняцце ўспрымалася інакш: душа фармуе з матэрыі цела твор мастацтва – жывога чалавека. Стоікі бачылі ў “целе” абазначэнне адзінства, праз што было адноўлена старое ўяўленне пра чалавечае цела як пра малы свет (мікракосмас), паралельны і звязаны з вялікім целам (макракосмасам) – сусветам. Душа, паводле іх, належыць да цела і з’яўляецца яго часткай як сіла жыцця ў ім. Чалавек, што з’яўляецца часткай сусвету, мае той самы жыццёвы дух, які пранізвае ўвесь свет, але ў сваёй найбольш сканцэнтраванай форме знаходзіцца ў чалавечым розуме. І наадварот, сусвет – гэта цела, якім кіруе Зеўс, найвышэйшы бог (ці проста неба або боскі розум).

### Сэнс слова “цела” ў Новым Запавеце

У Новым Запавеце паранейшаму дамінуе старазапаветны цэласны погляд на чалавека, хоць цяпер выкарыстоўваецца грэцкае слова sōma, якое нясе ў сабе ўжо адценне эліністычнага разумення гэтага паняцця. Такім чынам, “цела” азначае ўсяго чалавека, які можа ўваскрэснуць пасля смерці (Мц 27,52; Дз 9,40; Ян 2,21; Рым 8,11; 1 Кар 6,14). “Душа” – гэта яго жыццёвая сіла, каторая пастаянна абнаўляецца праз спецыяльную ежу і пітво – Эўхарыстыю (Мц 6,25). У Евангеллі паводле св. Мацвея (10,28) гаворыцца пра тых, хто здольны забіць цела, але не душу, хоць чалавек пасля смерці застаецца душой і целам. Гэта становіцца больш зразумелым, калі мы разглядаем канцэпцыю св. Паўла пра “духоўнае цела” ў адрозненні ад “псіхічнага” (зямнога) цела. Гэта цела ўваскрэсне, але яно будзе зменена і не застанецца “целам і крывёю” (1 Кар 15,50-51; Флп 3,21). У 2 Кар 5,8 Апостал Павел нават гаворыць аб жаданні “выйсці з цела” і аб разбурэнні “зямнога намёта” (5,1). Так ён выражае чаканне новага “адзення”, якім будзе “жыццё, што паглыне смяротнае”. Больш за ўсё здзіўляе 2 Кар 12,3, дзе Павел у саркастычнай манеры апавядае пра надзвычайны досвед узяцця яго ў рай і бачання невыказных рэчаў. Больш за тое, яго нават не цікавіць цуд як такі. Яго мала хвалюе, узышоў ён на неба “ў целе” ці не. Для яго мае значэнне толькі тое, што ён там быў (ці гэта магло быць нешта накшталт падарожжа душы, якая пакінула цела, – для яго няважна).

Паколькі ў Старым Запавеце няма слова “цела” (за выключэннем азначэння “трупа” або “раба”), не дзіўна, што гэты тэрмін рэдка сустракаецца ў вучэннях Езуса. Тым не менш, ёсць пэўны акцэнт на жыццё ў яго цялеснай форме; напрыклад, аздараўленне Езуса аднаўляе “цела” хворага (Мк 5,29), а паслухмянасць вучняў датычыць іх целаў, г.зн., што яны не павінны здзяйсняць чужалоства (Мц 5,29), а таксама цела не павінна станавіцца прычынай трывогі (6,25) або страху (10,28). Заўважым, што ў пасланнях св. Паўла прысутнічае “цялеснасць”: прынесці сваё цела ў ахвяру жывую (але не ў мучаніцтве, як у 1 Кар 13,3) – гэта духоўнае пакланенне (Рым 12,1). Нават сам Павел павінен “утаймаваць” сваё цела ў служэнні свайму Пану (1 Кар 9,27). Цела, а не душа, з’яўляецца святыняй Духа Святога (1 Кар 6,19-20). У целе апостала, г.зн., у яго “смяротнай плоці”, праяўляецца смерць і жыццё Езуса, як, напрыклад, у слядах шматлікіх бічоў (2 Кар 4,10-11; 11,24-25; Га 6,17). На апошнім судзе кожны павінен несці адказнасць за тое, што зрабіў “у целе” (2 Кар 5,10). Такім чынам, “цела” – гэта нашмат больш, чым проста фізічны інструмент (як, напрыклад, страўнік). Яно заўсёды належыць або Хрысту, або іншым сілам (напрыклад, граху і смерці, або распусце; Рым 6,6; 7,24; 1 Кар 6,13.15). У гэтым целе Божая ласка пераменяе жыццё чалавека ў новае. Паколькі вернікі былі “дарагой цаной набыты” (Божай ласкай), менавіта таму ў іх целах Бог будзе праслаўлены (1 Кар 6,20). Такім чынам, усе, хто быў ахрышчаны ў смерць Езуса Хрыста, не могуць больш дазваляць граху панаваць у іх смяротных целах (Рым 6,3.12).



### Цела Хрыста і Касцёл

“Цела” таксама належыць разглядаць у перспектыве Вячэры Пана. Словы ўстанаўлення падчас Апошняй Вячэры Езуса перадаюцца ў асноўным у двух розных версіях. Павел піша да Карынцянаў (каля 50 г. н.э.): “Я атрымаў ад Пана тое, што і вам перадаў, што (…) Ён узяў хлеб (…) і сказаў: “Гэта цела Маё за вас…” (1 Кар 11,23-25). У Евангеллі паводле св. Марка (14,22-24) гэтыя словы ўстанаўлення перададзены па-іншаму: “Вазьміце, гэта Цела Маё” і “Гэта Кроў Мая Новага Запавету, якая за многіх праліваецца” (напісана каля 70 г. н.э.). Паколькі арамейскае слова, якое азначае “цела” *(gûpā), можа абазначаць* “я” чалавека, Езус (Які размаўляў па-арамейску), магчыма, меў на ўвазе, што Ён сам будзе прысутнічаць са сваімі вучнямі, калі яны будуць есці хлеб. Значэнне Маркавай формулы надавала б большы акцэнт гатоўнасці Езуса аддаць сваё жыццё. Такім чынам, Вячэра Пана ўзнаўляе Новы Запавет у цяперашняй камуніі ўдзельнікаў з Богам і іншымі вучнямі. Гэтая камунія грунтуецца на мінулай ахвяры Езуса і з’яўляецца прадвеснікам будучага эсхаталагічнага спаўнення ў Валадарстве Божым пры прыйсці Хрыста (1 Кар 11,26; Мк 14,25; Мц 26,29; з асаблівым акцэнтам на Лк 22,15-18).

**Эўхарыстыя Цела і Крыві Пана ў выніку ўказвае на патройную арыентацыю Езусавай прысутнасці ў супольнасці вучняў – на мінулае, сучаснасць і будучыню.**

Калі, згодна з эўхарыстычнай традыцыяй, Езус казаў пра “Маё Цела”, Ён гаварыў пра сваю будучую прысутнасць са сваімі вучнямі як пра прысутнасць “для вас”. Такім чынам, “цела” выкарыстоўваецца не столькі як абазначэнне асобнага чалавека самога па сабе, колькі паказвае на чыёсьці існаванне, жыццё і дзеянне ў адносінах з іншымі. Любое цела ў пэўным сэнсе абмежавана формай і контурам (напрыклад, цела чалавека – скурай). У іншым сэнсе гэта сродак кантакту і зносін (напрыклад, бачыць вачыма, чуць вушамі, дакранацца рукамі, хадзіць нагамі). Менавіта ў гэтым апошнім сэнсе Езус выкарыстоўвае дадзены тэрмін у Апошняй Вячэры. Такім чынам, “цела Хрыстова” – гэта перш за ўсё сам Хрыстос, укрыжаваны дзеля сваіх вучняў (Рым 7,4; Клс 1,22). У Вячэры Пана “ўдзел” (або “камунія з”) целам Хрыста адбываецца такім чынам, што яно ператварае “многіх” у “адно цела”, паколькі ўсе прымаюць адзін і той жа хлеб. “У Хрысце” ўсе становяцца “адным целам” (Рым 12,5). Хрысціяне не проста аб’ядноўваюцца агульнай верай (напрыклад, у тое, што Езус аддае сваё цела за іх). Наадварот, яны становяцца “целам Хрыста” (1 Кар 12,27), таму што “ахрышчаныя ў адно цела”. Гэта “адно цела” з’яўляецца целам Хрыста, як ілюструе папярэдні верш: “Як цела адно і мае шмат членаў …, так і Хрыстос”. У хросце вернікі фактычна ўваходзяць у самога Хрыста.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што праз грэцкую мову хрысціянства атрымала слова sōma, “цела”, але таксама менавіта ўплыў гэтай мовы найбольш відавочны ў біблійным разуменні людскога цела. Фон Старога Запавету і асабліва жыццё і вучэнне Езуса далі Новаму Запавету разуменне цела як сродка камунікацыі і ўзаемадапамогі і любові паміж чальцамі Цела Хрыста (і нават за яго межамі для нявернікаў). Кульмінацыяй “пазітыўнага” разумення “цела” з’яўляецца ўцелаўленне Божага Сына, Які ў сваім целе стаў ахвярай на крыжы дзеля ўсіх людзей. Божы дух не проста дае жыццёвую сілу стварэнням, гэты дух праявіўся ў служэнні Езуса і дадзены Яго вучням у Пяцідзясятніцу, каб яны ўтваралі Цела Хрыста. Такім чынам, містычнае “Цела Хрыста” – гэта адзінства ўсіх асобаў, якія дазваляюць Езусу дапамагаць, любіць і напаўняць сябе. Кожная Вячэра Пана нагадвае Касцёлу, што толькі ў гэтым Целе яго вернікі знойдуць сапраўднае жыццё назаўжды. Дзякуючы абяцанню на Апошняй Вячэры Цела і Кроў Езуса, прынесеныя ў ахвяру, зноў становяцца прысутнымі і рэальнымі для ўдзельнікаў кожнай Вячэры Пана, надаючы ім якасць адзінага народа Божага і, у той жа час, абавязваючы іх зноў і зноў рэалістычна жыць гэтай еднасцю “габрэя і грэка, свабоднага чалавека і раба, мужчыны і жанчыны”, быць і станавіцца “Целам Хрыста”, пакуль Ён не прыйдзе.

### Бібліяграфія

*1. R.E. Schweizer, “Body”, у: D.N. Freedman, The Anchor Yale Bible Dictionary, Vol. I, New York, NY 1996, 759-757.*

*2. C.A. Labrecque, “Morphological Freedom and the Rebellion against Human Bodiliness: Notes from the Roman Catholic Tradition,” у: Religion and Transhumanism: The Unknown Future of Human Enhancement, рэд. C. Mercer and T.J. Trothen, Santa Barbara, CA 2015.*

*3. C.A. Labrecque, “The Glorified Body: Corporealities in the Catholic Tradition,” у: Religions 8 (9), 2017, c. 166.*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі,*
*г. Віцебск*

# ПАЗНАВАЙКА

Дарагі сябра "Пазнавайкі". Сёння будзем размаўляць пра цябе і пра кожнага чалавека як пра найвышэйшую вартасць і каштоўнасць у вачах Бога!

## 1. заданне

Што табе хоча сказаць "Пазнавайка" даведаешся, калі выканаеш першае заданне і прачытаеш словы па парадку!

створаны 3
5 вобраз
Бога!!! 7
дасканала 2
6 дасканалага
1 Ты
На 4

## 2. заданне

Што казаў святы Ян Павел II пра жыццё кожнага чалавека даведаешся, выканаўшы заданне. Разблытай наступны клубок!




## 3. заданне

Добра падумай над наступным заданнем. Выкраслі непатрэбныя словы. Пакінь толькі тыя, якія апісваюць чалавека, як найвялікшую важнасць для Бога! Выконваючы гэта заданне, парайся з кімсьці дарослым!




## 4. заданне

У правільным парадку суаднясі наступныя словы і запішы іх ніжэй!

 Няма няважнага
 1

 чалавека
 2

 Для Бога
 3

 і для Яго
 4

 ў натоўпе
 5

 Ніхто не страчаны
 6

Запішы адказ тут:

___________________________
___________________________
___________________________

## 5. заданне

**ВАЖНА!**

Памятай! У вачах Бога кожны чалавек мае аднолькавую каштоўнасць. Мы не павінны нікім пагарджаць. Пагарджаючы іншай асобай, мы аддаляемся ад Бога.

Прыгожа размалюй.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Фестываль хрысціянскай культуры прайшоў на Залатой Горцы

**Першая нядзеля восені стала адметным днём для многіх мінскіх католікаў. У парафіі Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха), што на Залатой Горцы, 4 верасня адбыўся другі фестываль хрысціянскай культуры “Адна культура – адно багацце”.**

■ **Вікторыя Філіпенка**, *тэкст*; **Марыя Воронік**, *фота*

Як зазначыў пробашч парафіі ксёндз Юрый Санько, “Касцёл заўсёды быў месцам, дзе кожны чалавек можа атрымаць не толькі духоўны рост, але і інтэлектуальнае развіццё”. Таму фестываль стаў значнай падзеяй для ўсіх жыхароў сталіцы. Тэма гэтага года – “Сакральная архітэктура”.

Фестываль распачаўся апоўдні ўрачыстай святой Імшой, якую ўзначаліў ксёндз-канонік Уладзіслаў Завальнюк, пробашч парафіі святых Сымона і Алены (Чырвоны касцёл).

Далейшую праграму працягнулі кароткія даклады на тэму сакральнай архітэктуры.

Ксёндз-канонік Уладзіслаў выступіў з прэзентацыяй кнігі “Залатая Горка”. Гэтая кніга, апроч гісторыі касцёла Святога Роха, змяшчае ўнікальныя звесткі пра старажытныя могілкі (1796-1893 гг), а таксама метрыкальныя дадзеныя пра пахаваных там вернікаў з касцельных кніг. Гэта калектыўная праца святароў, архітэктараў, гісторыкаў, філосафаў.

Падчас дакладу святар звярнуў увагу на тое, што могілкі сведчаць і заўсёды сведчылі пра культуру народа, з’яўляюцца люстэркам грамадства і паказваюць адносіны да памяці продкаў. А напрыканцы запрасіў слухачоў шанаваць сваіх памерлых сваякоў, наведваць могілкі і супольна маліцца.

З дакладам на тэму “Развіццё адукацыі пры кляштарах і касцёлах. Школы, калегіі, семінарыі” выступіў ксёндз-магістр-ліцэнзіят Павел Эйсмант. Дакладчык акцэнтаваў увагу на двух момантах. Па-першае, рухавіком, які нёс асвету ў шырокія масы, было хрысціянства. Па-другое, хоць школы па вывучэнні рэлігіі стваралі амаль што ўсе хрысціянскія канфесіі, менавіта Каталіцкаму Касцёлу першаму ўдалося стварыць дзейсную сістэму вышэйшай адукацыі, якая стала прыкладам для іншых.

Даклад на тэму “Гісторыя і сучаснасць. Актуальны стан сакральнай архітэктуры” прадставіў спадар Станіслаў Янчарскі, аўтар пяцітомніка “Касцёлы Беларусі”. Выступоўца з болем зазначыў, што разам з прыгожымі велічнымі храмамі ў розных куточках Беларусі ёсць шмат разбураных, занядбаных і забытых святынь. А таксама падкрэсліў, як важна ведаць гісторыю роднай краіны і яе сакральнай архітэктуры. Дарэчы, у парафіі Святога Роха арганізаваная фотавыстава спадара Станіслава “Касцёлы Беларусі”.

Трэба адзначыць, што праграма фестывалю атрымалася насычанай і цікавай. Сапраўднае свята для дзяцей стварылі ўдзельнікі моладзевай місіі “Чыстае сэрца”. Сюрпрызам стаў вялікі пухнаты белы мядзведзь, які танчыў і бавіўся з маленькімі гледачамі. Таксама валанцёры падрыхтавалі гульні і конкурсы. Ніхто з дзяцей не застаўся без падарункаў.



На касцельнай пляцоўцы быў арганізаваны кірмаш, дзе прысутныя маглі набыць рэлігійную літаратуру, мастацкія вырабы, мёд, а таксама падсілкавацца печывам, вафлямі, кавай і гарбатай. Гаспадары парафіі пачаставалі ўдзельнікаў фестывалю смачным абедам з пловам і блінамі.

Святочны настрой мерапрыемству падарылі ўдзельнікі хору “Голас душы” і “Verum cantus” з Чырвонага касцёла. Менавіта яны спявалі ў перапынках паміж дакладамі рэлігійныя песні на беларускай, польскай і лацінскай мовах. Адным з запрошаных выступоўцаў быў таксама і знакаміты гусляр Алесь Чумакоў.

Завяршыўся фестываль канцэртам арганнай музыкі “Гукі барока”.

# Каляндар на кастрычнік

**1** кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус, панны і доктара Касцёла.

**4** кастрычніка – успамін Святога Францішка Асізскага

**7** кастрычніка – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Ружанцовай.

**10** кастрычніка – свята Гадавіны пасвячэння катэдральнага касцёла.

**15** кастрычніка – успамін св. Тэрэзы ад Езуса, панны і доктара Касцёла.

**17** кастрычніка – успамін св. Ігнацыя з Антыёхіі, біскупа і мучаніка.

**18** кастрычніка – свята святога Лукі, евангеліста.

**22** кастрычніка – успамін святога Папы Яна Паўла II.

**28** кастрычніка – свята св. Сымона і Юды, апосталаў.

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з’яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9:**
1 – Б; 2 – А; 3 – А; 4 – А; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 – А; 9 – Б; 10 – А

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Тэрэса Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Валянціна Лучэна** *(Слабодка)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Анжэліка Нарушэвіч** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдзель** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Лізавета Лебедзева** *(Бягомль)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Людміла Булаўка** *(Ашмяны)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Галіна Данілава** *(Шуміліна)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Тэрэса Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Навалукомль)*, **Людміла Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Аліцыя Лазоўская** *(Гродна)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуцi)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Яніна Шэнда** *(Людвінова)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Гэлена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Лілія Казлоўская** *(Пагошча)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ангеліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ірэна Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4810

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 22.09.2022 г. у 6.45

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь